2

# ЛІТА–
# РАТУРа

Л–
ІТА
РаТ
УРА

2

*    *    *

О, час пераможных шэсьцяў -
Крышацца брукі ад маршаў!
Як не вітаць гэту музыку
сусьветнае мітусьні!..
Пара апантанага плёну -
зьбірайцеся і зьбірайце!
Як не вітаць гэту музыку!..
- Мне больш даспадобы - дождж...
Складзены стрэлы Фэба,
і зьвініць, цяпер беспатрэбная,
павуціны цяціва між дрэў...
Няхай не пакіне нас Восень!

Тацяна Сапач.

# Максім Клімковіч Міраслаў Шайбак

## VITA BREVIS

## АБО НАГАВІЦЫ СЬВЯТОГА ГЕОРГІЯ

фарс у двух актах

асобы:

Драматург
Рэжысэр
Арторка, яна ж пані Лютарова
Скарына
Лютар
Меланґтон
пані Меланґтонава
Слуга
Філёзафы: Фрыдрых і Людзьвіг

П'еса прысьвячаецца Вітэнбэргскім прыгодам Францішка Скарыны ў 1525 годзе.

### АКТ ПЕРШЫ

### ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

### ПРАЯВА ПЕРШАЯ

Глыбокі, як сумёт, ложак. Стол зь мікрафонам і крэсла. Нічога вартага ўвагі не адбываецца. Уваходзіць Акторка.

### ПРАЯВА ДРУГАЯ

Уваходзіць драматург.

АКТОРКА Гэта ты напісаў?
ДРАМАТУРГ Я.
АКТОРКА Пра гэтманскую булаву?
ДРАМАТУРГ Я.
АКТОРКА І пра дамавікоў?
ДРАМАТУРГ Я.
АКТОРКА І табе ня сорамна?
ДРАМАТУРГ Не.
АКТОРКА Ты што, адну парнаграфію пішаш?

ДРАМАТУРГ А ты ведаеш розьніцу паміж парнаграфіяй і эротыкай?

АКТОРКА І гэта ты будзеш пісаць пра Скарыну?

ДРАМАТУРГ Так.

АКТОРКА Уяўляю сабе. А там жаночыя ролі будуць?

ДРАМАТУРГ Трэба параіцца з Рэжысэрам.

АКТОРКА Тады райся са мной, я ягоная жонка.

ДРАМАТУРГ А што ты можаш?

АКТОРКА Усё, што пажадаеш.

ДРАМАТУРГ Жонку Марціна Лютара, заснавальніка пратэстанства.

АКТОРКА Зараз?

ДРАМАТУРГ Хочаш ролю? - дэманструй.

АКТОРКА Жонка Лютара прывабна выглядае ў месяцовым сьвятле (скідае чаравікі). Я маю рацыю?

ДРАМАТУРГ (маўчыць)...

АКТОРКА Яна занадта прывабна выглядае, калі ідзе да ложка.

ДРАМАТУРГ (маўчыць)...

АКТОРКА (распранаецца)...

ДРАМАТУРГ Мяне цікавіць эротыка, а не парнаграфія.

АКТОРКА Розьніцу растлумачыш майму мужу (правальваецца ў ложак).

ДРАМАТУРГ Мужу тлумачыць будзеш ты (ідзе да ложка, па дарозе скідае пінжак і гальштук).

ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ

Зьяўляецца Рэжысэр, сядае за столік.

ДРАМАТУРГ (ня бачыць Рэжысэра). Мужу тлумачыць будзеш ты, а я растлумачу, як павінна выглядаць пані Лютарова (расшпільвае кашулю).

Рэжысэр кратае мікрафон. Драматург спыняецца.

РЭЖЫСЭР Ты маеш кепскую звычку: думаць уголас.

ДРАМАТУРГ Прафэсыйная хвароба.

РЭЖЫСЭР Дарэчы, якая пані Лютарова? Ты мне абяцаў зрабіць сур'ёзную рэч, без жанчын.

ДРАМАТУРГ Абяцаў, але не атрымалася.

РЭЖЫСЭР Ведаю я: спачатку ў п'есе зьявіцца пані Лютарова, а за ёю вось такі ложак, гэтманская булава, дамавікі. Твая стыхія, але мы дамаўляліся на сур'ёзную рэч.

ДРАМАТУРГ У гэтых справах нельга паўтарацца.

РЭЖЫСЭР Давай бяз гэтых спраў наогул. Таму што памяць Скарыны мы павінны ўшанаваць на поўным сур'ёзе. 500 гадоў.

ДРАМАТУРГ (б'е нагой у ложак) Сам вінаваты, не прыбраў з папярэдняга спэктаклю, пракакуеш.

РЭЖЫСЭР Ды гэта зь дзіцячай казкі "Іван Сучы сын залатыя гузікі", беларускі фальклёр (падыходзіць, зазірае ў ложак, знаходзіць жонку). А ты што тут робіш?

ДРАМАТУРГ Не яна робіць, а мы робім - працуем над сцэнай у спачывальні ў доктара Лютара.

РЭЖЫСЭР Я адчуваю, якая тут ішла праца. Ты чаму ў ложку? Чаму ў такім выглядзе?

АКТОРКА Я пані Лютарова.

РЭЖЫСЭР А ён доктар Лютар, распранаецца, каб пазабаўляцца з маёй жонкай? У маім тэатры? Ці ён Іван Сукін сын залатыя гузікі?
ДРАМАТУРГ Ня Лютар, а Скарына.
РЭЖЫСЭР Яшчэ лепей: Скарына ў спачывальні Лютара забаўляецца з маёй жонкай.
АКТОРКА Не з тваёй жонкай, а з пані Лютаровай.
РЭЖЫСЭР А мне якая розьніца, мне што далей рабіць? Ты за мной замужам ці за Лютарам? І наогул, адкуль у п'есе ўзяўся Лютар?
ДРАМАТУРГ Ты што? Ты гэта ўсё ўсур'ёз?
РЭЖЫСЭР А вы, можна падумаць, жартам?
ДРАМАТУРГ Думаеш, у мяне хопіць на гэта нахабства? Ты сам мяне запрасіў, а я такім чынам час баўлю? Мы працуем над новай сцэнай.
АКТОРКА Ты мне ня верыш?
РЭЖЫСЭР Я ведаю сваю жонку і тваю літаратуру. Папярэджвалі мяне сябры, каб з табою ня зьвязваўся.
АКТОРКА А думаеш, у Лютара была лепшая жонка?
РЭЖЫСЭР Лютар, Лютар, хопіць мне галаву тлуміць. Што вы прычапіліся да гэтага Лютара, адкуль яго выцягнулі?
АКТОРКА Ён дзеля мяне гэта прыдумаў. І Лютара і ягоную жонку.
РЭЖЫСЭР Ён прыдумаў. П'еса пра Скарыну. Дзеля чужой жонкі можна прыдумаць што заўгодна.
ДРАМАТУРГ Мне можаш ня верыць, але гэта гістарычны факт, апісаны ў кнізе Барталамея Капітара.
РЭЖЫСЭР А хто гэта? Відаць, такі ж драматург, як і ты?
ДРАМАТУРГ Гэта гісторык шаснаццатага стагодзьдзя. Вось таму я драматург, а ты толькі рэжысэр.
РЭЖЫСЭР І што ён напісаў?
ДРАМАТУРГ Ён напісаў, як у Вітэнбэргу прафэсар Меланхтон - настаўнік Германіі, духоўны брат Лютара...
РЭЖЫСЭР Прафэсар жанаты?
ДРАМАТУРГ Цікавы ход, можна раскінуць сцэну на два ложкі.
РЭЖЫСЭР Ні ў якім разе, капіла зь мяне і аднаго.
ДРАМАТУРГ Як хочаш. Дык вось: гэты Меланхтон запрасіў да сябе на госьці Скарыну. Трэйцім на вячэру быў запрошаны Лютар.
АКТОРКА З жонкай.
ДРАМАТУРГ Не, пані Лютарова засталася дома.
РЭЖЫСЭР Вось гэта мне падабаецца. Гэта сур'ёзна. Доктар Марцін Лютар, доктар Францішак Скарына, прафэсар Меланхтон - сур'ёзны тэалягічны дыспут. Яны вырашаюць лёс Эўропы. І ніякіх жанчын. Да таго ж Лютар сьвятар, адкуль у яго жонка?
АКТОРКА Ён жа пратэстант, яму можна.
ДРАМАТУРГ А ня верыш, спраўдзі ў Секендорфа. На вячэры ў Меланхтона Лютар быў настолькі захоплены талентамі чужаземнага доктара, што запрасіў Скарыну да сябе на госьці і абяцаў падараваць сваё выданьне Бібліі, гэта, як прынята лічыць, першы пераклад Сьвятога пісаньня на народную мову.
РЭЖЫСЭР Клас, зразумеў ход. А Скарына яму падорыць сваю і быццам між іншым заўважыць, што выдаў свой пераклад на восем гадоў раней: Лютар у 1525 годзе, а Скарына ў 1517-м.
АКТОРКА Ну, пачалася цягамоціна. Хто гэта будзе глядзець, каму гэта цікава?
РЭЖЫСЭР Ведаеш, як гэта будзе прыгожа глядзецца? Доктарская мантыя. Вось такія фаліянты.
ДРАМАТУРГ Ну, як, падабаецца завязка? Будзем працаваць?

РЭЖЫСЭР А зможаш раскруціць гэты сюжэт, каб глядзелася?
ДРАМАТУРГ Барталамей Капітар усё да мяне раскруціў. Засталося на дыялёгі расьпісаць.
РЭЖЫСЭР Давай працаваць. Пагля дзім, што з гэтага выйдзе.

**Выходзяць.**

**ДЗЕЯ ДРУГАЯ**

**ПРАЯВА ПЕРШАЯ**

**Спачывальня Марціна Лютара. Той жа ложак.**

Уваходзяць Рэжысэр і Драматург, сядаюць за столік зь мікрафонам. Рэжысэр кратае мікрафон.

ПРАЯВА ДРУГАЯ

Уваходзіць Лютар.

ЛЮТАР Гэй, слуга! (звоніць у званочак).

ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ

Уваходзіць Слуга. Моўчкі чакае загаду.

ЛЮТАР Стол накрывай на траіх. На вячэру запрошаны Францішак Скарына.

Слуга выходзіць.

ЛЮТАР Пачакай, пачакай. Францішак Скарына, а ці ня той гэта Францішак-каталік? Мне ж даўно казалі сябры: "Сьцеражыся доктара Францішка-каталіка". І як я адразу ня ўспомніў, не зразумеў, што гэта ён - найхітрэйшы прайдзісьвет, езуіт і папскі шпіён?

ПРАЯВА ЧАЦЬВЕРТАЯ

Уваходзіць пані Лютарова.

ЛЮТАР Мяне папярэджвалі, што яму біскупы дзьве тысячы залатых далі на тое, каб мяне са сьвету зжыў. Я ўжо ня раз зьведаў падкопы д'ябла.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ты, Марцін, прыдбаў кепскую звычку - думаць уголас.
ЛЮТАР Я мушу тэрмінова ехаць у Таргаў.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ты ж запрасіў на вячэру нейкага доктара?
ЛЮТАР Запрасіў, а цяпер перадумаў. А ты кладзіся спаць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА А як жа твой госьць?

ЛЮТАР Ён ня прыйдзе.

Пані Лютарова зьнікае ў ложку. Лютар выклікае Слугу.

ПРАЯВА ПЯТАЯ

Лютар і Слуга.

ЛЮТАР Я ад'яхджаю. Да мяне павінен прыйсьці адзін чалавек. Яго ў дом не пускай. Скажы, няма гаспадара, зьехаў. І сьцеражыся яго, бо ён чараўнік і езуіт.
СЛУГА Як гаспадар пажадае. (убок) Знайшоў дурня, сам уцякае, а мне заставайся.
ЛЮТАР У дом не пускай, асабліва ў спачывальню, каб не зачараваў часам. Бо найхітрэйшы прайдзісьвет (ад'яхдкае ў Таргаў).

ПРАЯВА ШОСТАЯ

Скарына і Слуга ў доме Лютара.

СКАРЫНА (з фаліянтам пад пахай) Доктар Францішак Скарына да доктара Марціна Лютара (спрабуе прайсьці і зазірнуць у спачывальню).
СЛУГА Гаспадар зьехаў. Наказваў пана ў дом не пускаць, асабліва ў спачывальню.
СКАРЫНА Я ж яшчэ нічога не пасьпеў яму зрабіць, нават кнігу не паказваў. Дык што гаспадар казаў?
СЛУГА Што пан доктар чараўнік і езуіт.
СКАРЫНА Што праўда - то ня грэх. Патрымай кнігі, а я твайму гаспадару цыдулку напішу.

Слуга бярэ фаліянты, спрабуе разабраць, што ў іх напісана.

Тым часам Скарына падыходзіць да стала, сядае, піша.

СЛУГА Літары нейкія незразумелыя. Кабала нейкая. Відаць, і кніга чароўная, падкінуць вырашыў.
СКАРЫНА Мацней трымай, бо ногі адаб'е, як упусьціш.
СЛУГА (выпускае фаліянт з рук, уцякае) Кабала! Кабала!
СКАРЫНА (падымае фаліянт) Добры гаспадар такога палахліўца трымаць ня будзе. Кнігу на падлогу кінуў. Немчура. Лютар мне сваю Біблію дакляраваў падарыць. У кабінэце, відаць, пакінуў. Пэдант. Гасьцёўня неблагая (шукае выданьне Лютара і не знаходзіць). Нічога, не апошні дзень я ў Вітэнбэргу. Сустрэнемся - перадасьць, разам з прабачэньнямі. Яму ўхо, як каталік, то і папскі шпіён. Даволі звычайны дом, як і іхняя царква. Цікава, а што ён так за спачывальню перажывае? Калі мы робім адну і тую справу, друкуем адну і тую кнігу, то і ў ягонай спачывальні я не павінен адчуць сябе чужым (заходзіць у спачывальню). Прывабная спачывальня!
ПАНІ ЛЮТАРОВА (з ложка) Марцін, гэта ты?
СКАРЫНА Не, не я.
ПАНІ ЛЮТАРОВА А хто?

СКАРЫНА Доктар Францішак.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Як мне абрыдлі гэтыя дактары! Пан, відаць, такі ж доктар, як і мой Марцін - кніжнік, пацук бібліятэчны?

СКАРЫНА Я двойчы доктар. І вучыць, і лячыць, і маляваць, і на ложку скакаць.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Пан француз?

СКАРЫНА Горш.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Італьянец?

СКАРЫНА Не, я негр.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Што, на самой справе? (пасьпешліва падымаецца з ложка).

СКАРЫНА Што, не падобны?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Пан ня толькі доктар, але й жартаўнік.

СКАРЫНА У Марціна Лютара занадта прыгожая жонка.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Што гэта значыць - занадта? Дарэчы, як пан сюды трапіў і што зьбіраецца рабіць?

СКАРЫНА Твой Марцін запрасіў мяне й дакляраваў прэзэнтаваць самае дарагое, што мае. Я й ня ведаў, што ў немцаў такі звычай - прэзэнтаваць жонак. Але я ня супраць.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Пан пераходзіць межы прыстойнасьці. Прыходзь заўтра, Марцін падорыць табе паперку.

СКАРЫНА Па-першае, у спачывальні немагчыма перайсьці мяжу прыстойнасьці, ва ўсякім разе, мне гэтага яшчэ ніколі не ўдавалася. Па-другое, паперка будзе вельмі дарэчы, я намалюю на ёй твой партрэт. Але толькі пасьля таго, як.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Пасьля чаго?

СКАРЫНА Пасьля таго, як ты дасі на гэта згоду.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Я ня дам. Нашто мяне маляваць, нашто мне партрэт?

СКАРЫНА Не табе, а мне. Я ўстаўлю яго ў Сьвятое пісаньне.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Гэта ж грэх, і наогул, нашто партрэт у Сьвятым пісаньні?

СКАРЫНА Кніжкі з малюнкамі, а тым больш з аголенымі прыгажунямі куды цікавейшыя за тую нудоціну, што робіць твой Марцін. Хочаш, чытай як Сьвятую кнігу, хочаш - як зямную. Каб і для душы і для цела. Прыемна.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ведаеш, самога сябе малюй у Сьвятым пісаньні.

СКАРЫНА Я ўжо даўно намаляваў.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Маніш, маніш. Такі грэх. Мой муж цябе не запрасіў бы.

СКАРЫНА А ён і ня бачыў (выходзіць у гасьцёўню, вяртаецца з разгорнутай кнігай). Калі ласка.

ПАНІ ЛЮТАРОВА А чаму не агалены? Я ж казала, маніш.

СКАРЫНА Калі маляваў, было халодна, ня тое, што зараз.

ПАНІ ЛЮТАРОВА (бярэ кнігу) Нічога не зразумела, адкуль тут відаць, што гэта Сьвятое пісаньне?

СКАРЫНА Калі ня верыш, слухай, зачытаю, у перакладзе: "Біблія беларуская, зробленая доктарам Францішкам Скарынам". А ты ня верыла.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ну ты даў! Біблію напісаў, можа ты яшчэ і сьвет сам стварыў?

СКАРЫНА Сьвет ня сьвет, а твой партрэт намалюю, распранайся.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Бач ты, які спрытны, я зараз слугу паклічу.

СКАРЫНА Кліч. Я Біблію зрабіў, а яна мяне слугам палохаць будзе. Кліч!

ПАНІ ЛЮТАРОВА І паклічу!

СКАРЫНА Кліч, не дапаможа.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Гэй, слуга!

ПРАЯВА СЕМАЯ

У спачывальню заходзіць Слуга.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Пакажы пану двойчы доктару дзьверы.
СКАРЫНА (да Слугі) Хадзі сюды. Пакладзі руку на кнігу.

Слуга падыходзіць, але рукі хавае за сьпінаю.

СКАРЫНА Руку на кнігу кладзі, а ня тое ў рыбуператвару, і захлынесься тут!

Слуга пачынае калаціцца ад страху і кладзе руку на кнігу.

СКАРЫНА Чацеў у птушку ператварыць, але зь цябе толькі муха атрымаецца. Бачыш на маім партрэце муху? Рыхтык ты. Адчуваеш, крылцы на сьпіне варушацца?
СЛУГА (крычыць) Аааааа, кабала, кабала! (кідаецца ўцякаць, зьбягае).
СКАРЫНА (наўздагон яму тупае нагамі і крычыць) Уууууу...
ПАНІ ЛЮТАРОВА А сапраўды, чаму на тваім партрэце муха намаляваная, яна ж Біблію не пісала?
СКАРЫНА А так, дзеля сьмеху. Дурняў палохаць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Я сур'ёзна пытаюся, можа гэта пчала? Біблія ўсё ж такі.
СКАРЫНА Можа і пчала. А я несур'ёзны чалавек. Вось намаляваў стварэньне, цяпер хай у сур'ёзных галовы баляць. І ведаеш, колькі будуць балець?
ПАНІ ЛЮТАРОВА Кажаш, што ты мастак. Пакуль што бачу, ты толькі балбатаць мастак. Яшчэ невядома, хто гэтыя малюнкі рабіў.
СКАРЫНА Пакуль сам сябе не намалюеш, ніхто цябе не намалюе. Ну, як? Даеш згоду быць намаляванай?
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ведаю я цябе. Уяўляю. Выставіш усяму сьвету, ды яшчэ падпішаш: пані Лютарову маляваў доктар Францішак Скарына пад той час, калі самога Лютара не было дома. Марціна шкада, усе са старога сьмяяцца будуць.
СКАРЫНА Толькі гэтага й баісься? Не, я ўсё абстаўлю. Вышэйшым гатункам пойдзе. Напрыклад, ты, як Юдзіф з галавой Алаферна на талерцы, або налажніца цара Саламона ў руках, магу Марыяй-Магдаленай.
ПАНІ ЛЮТАРОВА А Боскай Маці зможаш?
СКАРЫНА Толькі з павагі да сьвятой справы пана Лютара. Але тут ёсьць адзін далікатны момант: у Маці Боскай грудзі павінны быць такія, каб толькі Хрысту цалаваць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА А хто іх бачыў?
СКАРЫНА Я пакуль і тваіх ня бачыў.

Пані Лютарова скача ў ложак, хаваецца ў ім з галавой. Выкідае адтуль сукенку. Потым паказваецца з ложка па пояс, дэманструе Скарыну свой агалены стан.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ну як?
СКАРЫНА Мне падабаецца.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Яму падабаецца. І толькі? А дзе твае пэндзлікі і папера?
СКАРЫНА Прыйдзе Марцін і падорыць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Так што, ты прапануеш чакаць Марціна?
СКАРЫНА Чакаць можна па-рознаму. Дарэчы, чалавек я несур'ёзны, а мастак, наадварот, зь мяне сур'ёзны аж занадта. Цябе, каб намаляваць, я павінен ведаць, як самога сябе, адчуваць сабой. Трэба вывучыць форму, прайсьціся рукамі па абрысах. Вось Маці Боскую я намаляваць і зараз магу, як тую муху, але цябе я павінен вывучыць як матэрыял, каб і з заплюшчанымі вачыма намаляваць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА За Боскую Маці табе сьвятая інквізіцыя язык адрэжа.
СКАРЫНА Язык ня самае страшнае.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Можаш далей не казаць. Я і так усё разумею і пачынаю мерзнуць.
СКАРЫНА Люблю здагадлівых (скача ў ложак).
ПАНІ ЛЮТАРОВА А раптам вернецца Марцін? (паказвае голаў з ложку).

Інтанацыі набываюць эратычнае адценьне. З ложку ўздымаецца Скарынава рука і ўціскае галаву пані Лютаровай у ложак.

СКАРЫНА Непрыемная атрымаецца сцэна для цябе. А мне давядзецца на дзень раней зьехаць зь Вітэнбэргу.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Добра, што ты каталік.
СКАРЫНА А мне дык і ня шкодзіць, што ты пратэстантка.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ведаеш, да чаго мой Марцін дайшоў? Напісаў, што з жонкай трэба маркітавацца два разы на...
СКАРЫНА (перабівае) На дзень?
ПАНІ ЛЮТАРОВА На тыдзень, блага ты ведаеш Марціна.
СКАРЫНА Нямецкія забабоны.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Францішак, а ты мяне кахаеш?
СКАРЫНА Я цябе выратую.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Францішак, а ты мяне намалюеш? Трэба ж пасьпець да прыходу мужа і тое, і гэтае.
СКАРЫНА Я намалюю цябе пазьней, па памяці. У мяне выдатная зрокавая памяць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ты ж у мяне такі геніяльны.
СКАРЫНА Сам ведаю.
ПАНІ ЛЮТАРОВА А ты шмат жанчын маляваў?
СКАРЫНА Немак першы раз даводзіцца маляваць.

## ПРАЯВА ВОСЬМАЯ

Уваходзіць Лютар.

ЛЮТАР Гэй, слуга, дзе ты падзеўся? А ці прыходзіў доктар Францішак? Няма... Зьнік некуды. Пайду ў жонкі запытаюся (кіруецца да спачывальні).

Скарына выскоквае з ложка, пасьпявае абуць чаравікі. Кідае позірк на свае голыя лыткі, спрабуе абцягнуць на іх доктарскую мантыю. Потым прысядае такім чынам, каб мантыя апусьцілася да

падлогі і закрыла лыткі. З ложка паказваецца пані Лютарова, закінае твар рукамі і хаваецца зноў.

У спачывальню заходзіць Лютар.

СКАРЫНА Вітаю пана Лютара. Як добра, што ён прыйшоў, а то я ўжо зьбіраўся адыходзіць, ды не было на каго пакінуць вашую пані Лютарову.

ЛЮТАР Пан Францішак? А што здарылася? Як хто падмяніў пана (набліжаецца, прымерваецца да Скарыны ростам). Учора ўвечары мы былі роўныя, мне здавалася, а цяпер я вышэйшы...

СКАРЫНА Бачыць пан, ледзь ногі перастаўляю (ідзе да ложка).

ЛЮТАР Гэта я й сам бачу. Дык што здарылася?

СКАРЫНА Прыйшоў я ў прызначаны час. І ўбачыў, як з дому ўцякаў Слуга. Падумалася: "Відаць нешта нядобрае здарылася ў доме пана Лютара!" І не памыліўся. Зайшоў. Пуста паўсюль, і толькі са спачывальні чуўся такі далікатны стогн. "Пані Лютарова", - і зноў не памыліўся. Падбег, а яна паміраe! Сэрца спыняецца.

ЛЮТАР Дзіўна, дзіўна. Сыходзіў - здаровая была, ды яна дагэтуль ніколі не хварэла.

СКАРЫНА Рабакі да сэрца падыйшлі. Яно заўсёды так, нечакана здараецца.

ПАНІ ЛЮТАРОВА (паказвае галаву з ложку) Так, так, усё было менавіта так. Мне было так блага, і Слуга ўцёк. А тут нечакана зьявіўся пан Францішак.

ЛЮТАР Што, Слуга ўцёк?

СКАРЫНА Але, такі палаклівец. Збаяўся, што пані Лютарова памрэ.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Так, так. Зьявіўся пан Францішак і мяне выратаваў.

ЛЮТАР (зазірае ў ложак) І як ты сябе зараз адчуваеш?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Зараз? Выдатна!

ЛЮТАР (выцягвае з ложку Скарынавы нагавіцы) А гэта што? Што гэта? Я ў вас пытаюся?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Нагавіцы...

СКАРЫНА (выпростваецца, робіцца вышэй за Лютара, годна падыходзіць, урачыста бярэ нагавіцы) Гэта сьвятая рэліквія. Нагавіцы сьвятога Георгія. Гэта яны выратавалі пані Лютарову.

ЛЮТАР Ня веру ні я, ні мая жонка ні ў якія сьвятыя рэліквіі, хіба пан забыўся, што я рэфарматар? Каталіцкія забабоны ў маім доме. Як ты магла?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Гэта пан Францішак...

ЛЮТАР Ня веру я ні ў якія сьвятыя рэліквіі, і табе верыць забараняю. Урэшце рэшт мы пратэстанты.

СКАРЫНА У нагавіцы сьвятога Георгія можна ня верыць, я згодны. Мне падабаюцца ідэі рэфармацыі. Але я павінен нагадаць пану Лютару, што я, між іншым, і доктар лекарскіх навук. У дыплём Падуанскага універсітэта можна верыць? (дастае з нагавіцаў дыплём, падае Лютару і надзявае нагавіцы).

ЛЮТАР Дыплём на імя Францішка Скарыны.

СКАРЫНА А на чыё яшчэ?

ЛЮТАР На імя сьвятога Георгія, нагавіцы ж ягоныя.

СКАРЫНА Усё слушна, але надзетыя яны, як можна бачыць, на мне.

ЛЮТАР Як ні круці, але не хапае адных нагавіц.

СКАРЫНА Мае засталіся ў Маскве, у Георгіеўскай зале.

ЛЮТАР Пан доктар паўсюль ходзіць з голымі лыткамі?. А мне спачатку падалося, што толькі ў маім доме.

СКАРЫНА Зайшоў я неяк перад ад'ездам з Масквы ў Георгіеўскую залу. На той час у царкве нікога не было. Перад царскай брамай заўважыў нагавіцы сьвятога Георгія. Тут узьнікла ў мяне жаданьне прымераць іх, адчуць сябе ў якасьці сьвятога. Скінуў свае нагавіцы, надзеў Георгіеўскія, дыплём у іх паклаў. У гэты момант зайшоў туды архімандрыт і заўважыў, што нагавіцы зьмяніліся, сталі лепшыя, навейшыя. І як укленчыць: "Сьвяты цуд, сьвяты цуд! Нагавіцы сьвятога Георгія аднавіліся!" Такі наіўны чалавек, нават падумаць ня мог, што ў некага хопіць нахабства зьняць з брамы сьвятую рэлíквію. З таго часу вось даводзіцца хадзіць у нагавіцах сьвятога. Мне здаецца, такое не пярэчыць ідэям рэфармацыі, якія я вельмі паважаю.

ЛЮТАР Дык маскоўскія схізматыкі і дагэтуль моляцца на звычайныя нагавіцы ў Георгіеўскай зале?

СКАРЫНА Так.

ЛЮТАР І дыплём пан Францішак паклаў у нагавіцы сьвятога Георгія?

СКАРЫНА Так. Не пакідаць жа Георгію, ён на маё імя выпраўлены.

ЛЮТАР Хвілінку, пан жа атрымаў дыплём у Падуі. То адкуль у Маскве ўзяўся Падуанскі дыплём?

СКАРЫНА У Маскве ў мяне быў Кракаўскі дыплём - дыплём м...стака. Яго і паклаў. А ў Падуі быў Падуанскі - лекара. Вось сюды паклаў Кракаўскі, а сюды Падуанскі. І няхай пан доктар мяне ня блытае.

ПАНІ ЛЮТАРОВА (вылазіць з ложку закутаная ў коўдру) Марцін, ты запрасіў чалавека, а сам зьехаў, кінуў мяне тут паміраць, а ён мяне выратаваў. І цяпер ты, як езуіт-інквізітар учыняеш тут допыт. Мы павінны быць удзячныя. Людзі ж даведаюцца, і што пра нас казаць пачнуць у Вітэнбэргу?

СКАРЫНА Я ўдзячны пані Лютаровай за тое, што яна так высока цэніць мае здольнасьці. Аб чым гаворка? Я ўжо бязьмежна ўдзячны, што пазнаёміўся з панам Лютарам.

ЛЮТАР Я абяцаў пану Францішку прэзэнтаваць сваё выданьне Сьвятога пісаньня (выходзіць).

ПАНІ ЛЮТАРОВА Дык ты намалюеш мяне?

СКАРЫНА Каб падабенства было дакладае, трэба правесьці яшчэ пару сэансаў. З заплюшчанымі вачыма яшчэ не намалюю. Не дайшоў да кандыцыі. Адным вокам усё ж такі падглядаць давядзецца.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Яшчэ пару сэансаў, кажаш? Я ня супраць. Лютар засьне, мы і сустрэнемся.

СКАРЫНА Мне сюды прыходзіць зноў небясьпечна. На гэты раз ўратаваў сьвяты Георгій, другі раз можа й не спрацаваць.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Лепш я да цябе прыйду. Толькі куды?

СКАРЫНА Я ў Меланхтона жыву. Прыходзь, толькі пазьней, каб гаспадары моцна пазасыналі.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ты Меланхтона напаі, каб добра спаў. Ён і не пачуе, як я прыйду. Пракрадуся праз ягоную спачывальню і адразу ў тваю, ты толькі дзьверы загадзя адамкні.

СКАРЫНА Згода.

ПРАЯВА ДЗЕВЯТАЯ

Увакодзіць Лютар. Працягвае Скарыну кнігу.

ЛЮТАР Вось самае дарагое, што маю.

СКАРЫНА Разумею пана доктара. У нас самае дарагое адно на дваіх. Што можа быць даражэйшае за Сьвятое пісаньне? (бярэ кнігу) Як ні было мне тут прыемна, але надыйшоў час разьвітацца. Цёмна ўжо. Мушу ісьці. Маё шанаваньне пану Лютару і пані Лютаровай.

ЛЮТАР А, дарэчы. Пан доктар спыніўся ў нашага брата Меланхтона?

СКАРЫНА Так. Апошнюю ноч пабуду ў ягоным доме і паеду.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Куды?

СКАРЫНА Гэтага ніхто ня ведае (сыходзіць).

ПАНІ ЛЮТАРОВА Да пабачэньня, пан Францішак.

ЛЮТАР Да пабачэньня, да пабачэньня, пан доктар, ня ведаю ўжо якіх навук. Мы яшчэ сустрэнемся.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ты нешта сказаў?

ЛЮТАР Я і з табой яшчэ разьбяруся! Заўтра пагаворым. Кладзіся спаць!

ПАНІ ЛЮТ^РОВА Ты некуды сабраўся?

ЛЮТАР Кладзіся спаць, я сказаў! Я зноў еду ў Таргаў.

Чакае, пакуль жонка ляжа ў ложак і толькі тады сыходзіць.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Шкада, каб ведаць, што стары зьедзе, то Францішку можна было б і за рогам пачакаць, а зараз давядзецца цягнуцца такой цемрай да Меланхтона. (устае, апранаецца) Не, рана яшчэ ісьці. Раптам Марцін вернецца. Ды й Францішку трэба добра Меланхтона апрацаваць, каб спаў і нічога наўкола ня бачыў і ня чуў.

ДЗЕЯ ТРЭЦЯЯ

Тыя ж.

РЭЖЫСЭР (кратае мікрафон) Дастаткова. На сёньня ўсё.

Акторка выходзіць. Рэжысэр з Драматургам устаюць, ідуць да ложка.

ДРАМАТУРГ Мы ж дамаўляліся. Я табе зрабіў тэалягічны дыспут у Меланхтона па вышэйшым гатунку. Ты ў ім кожную дэтальку выточваў. А над гэтай сцэнай працаваць ня хочаш. Ну, што гэта за акт? Схаваліся ў ложак, і нічога не відаць. Не па-мастацку атрымалася. Мог бы два цені на сьцяну запусьціць, або заслону паўпразрыстую, накштальт сеткі. І стварыў бы растр. Было б прыстойна. А так абы што. Ты паглядзі, што атрымалася: Скарына скача ў ложак, скача з ложка.

РЭЖЫСЭР Што ты напісаў, тое я і зрабіў.

ДРАМАТУРГ Я раблю літаратуру, а ты робіш спэктакль. Я ня буду ўсе паўзы па сэкундамеры расьпісваць.

РЭЖЫСЭР Ну і падпісвай: п'еса для чытаньня, я гэта дарабляць ня буду, і нікому паказваць не зьбіраюся.

ДРАМАТУРГ Чаму гэта ня будзеш?

РЭЖЫСЭР Я ня ты, я са Скарыны і Лютара зьдзекавацца не магу. Пачыналі працу, ты мне як абяцаў? Напісаць сур'ёзны маму-

мэнтальны твор, па магчымасьці ў вершах, накшталт Фаўста. Узяў бы сапраўднага Фаўста ды нарэзаў зь яго цытат. Паставіліся б нармалёва.

ДРАМАТУРГ На клясыку пацягнула, то і ставіў бы клясыку. Ты мне галаву не дуры. Скарына, Лютар яго квалююць! Які ж ён Скарына - звычайны актор. Сёньня ён Скарына, заўтра - сьвяты Георгі. Рэплікі яму я напісаў, мне за іх і адказваць. А ты проста за жонку сваю баісься. Ня хочаш яе аголеную на сцэне дэманстраваць, таму і ў ложак схаваў.

РЭЖЫСЭР Тады здымай імя Скарыны і Лютара, гані камедыю. Якія ж яны пасьля гэтага дзеячы Адраджэньня?

ДРАМАТУРГ А ты ўяўляеш сабе эпоху Адраджэньня? Ты ведаеш, што Петрарка і Бакача жылі пры каралеўскім двары, дзе адна французкая графіня атруціла другую пры дапамозе клізмы. А праз год забіла ва ўласным ложку мужа каралевы. Двор гэты, як пісалі сучасьнікі, нагадваў публічны дом. Што Мікелянжэла зламаў нос Леанарда да Вінчы і жахліва зьнявечыў твар адному нямецкаму ювэліру. А знакаміты скульптар Тарыджыяні сам расказваў Бенвенута Чэліні, як аднойчы так моцна ўдарыў маладога Мікелянджэла кулаком у нос, што нос ператварыўся ў аплатку. На што Чэліні расказаў пра тое, як ён катуе й забівае каханак, а потым выхваляўся злачынствамі, якіх нават і не рабіў. А Франсуа Рабле? Як мінімум у дзьвюх краінах Франсуа Рабле быў прысуджаны да сьмяротнае кары. Ты думаеш, Скарына быў лепшы за іх?

РЭЖЫСЭР Ты на мяне ня цісьні. Ты мне Скарыну зрабі такога, каб ня сорамна было ні за яго, ні за сябе.

ДРАМАТУРГ А мне ня сорамна ні за сябе, ні за Скарыну. Я раблю эпоху Адраджэньня такой, якой яна была.

РЭЖЫСЭР Я не магу гэта паставіць.

ДРАМАТУРГ А я не магу рабіць бронзавых ампірных балваноўідалаў.

РЭЖЫСЭР Вось і дамовіліся. Ты шукай сабе іншага рэжысэра, а я знайду іншага драматурга.

Выходзяць.

## і н т э р м э д ы я

З-за кулісы ўваходзяць філёзафы: Фрыдрых і Людзьвіг, ідуць праз сцэну, не зважаючы на залю. Гавораць па-нямецку. Тэкст даецца ў перакладзе.

ЛЮДЗЬВІГ (да Фрыдрыха) ... Было б, сапраўды, сафізмам ня толькі сьмешным, але й неразважным грунтаваць і тлумачыць жаніцьбу Лютара, зыходзячы не з правоў розуму і прыроды, а станоўчым запаветам, выслоўем зь Бібліі. Тады мусім даводзіць, што ў Бібліі згадваецца Катарына фон Бора, як наканаваная яму жонка, што Лютар ажаніўся з Катарынай на падставе пэўных Біблейскіх словаў. Чалавек, які наважыўся ажаніцца не самастойна, а на падставе Бібліі, ня здолее сам абраць тую ці іншую асобу. Але ж абраць можна толькі адну. Якую ж? Гэта галоўнае.

Людзьвіг з Фрыдрыкам нетаропка заходзяць за супрацьлеглую кулісу. Праз хвіліну зьяўляюцца зноў, ідуць у адваротным кірунку.

ФРЫДРЫХ (да Людзьвіга) ... а што адбылося замест гэтага? Немец-манах па прозьвішчу Лютар зьявіўся ў Рыме. І гэты мніх, з усімі помсьлівымі інстынктамі жраца-недаробка, што захрасьлі ў ягоным целе, абурыўся ў Рыме супраць Рэнесансу... Замест таго, каб зь вялікай пашанай асэнсоўваць душою тое пачварна-вялікае, што зьдзейсьнілася, - а менавіта, пераадольваньне хрысьціянства ў самым ягоным асяродку. Ён толькі ўмацоўваў гэтым відовішчам сваю нянавісьць. Рэлігійны чалавек думае толькі пра сябе...

Фрыдрых зь Людзьвігам выходзяць за кулісу.

АКТ ДРУГІ

і н т э р м э д ы я

Зноў з-за кулісы ўваходзяць філёзафы, рухаюцца тым жа чынам: ад адной кулісы за другую і наадварот.

ФРЫДРЫХ (да Людзьвіга) ... Лютар убачыў псаваньне папства, тады як мажліва было намацаць рукамі адваротнае: старажытнае псаваньне, першародны грэх, хрысьціянства ўжо не было на папскім троне! А панавала жыцьцё! Сьвята жыцьця! Вялікае Так, зьвернутае да ўсяго новага, прыгожага, дзёрзкага!.. І Лютар аднавіў царкву - ён абвясьціў ёй вайну... Рэнесанс - велічнае дарма. Ах, гэтыя немцы. У што яны нам абыйшліся! Кожнае "Дарма" - справа нямецкіх рук... Прызнаюся: яны мае ворагі, гэтыя немцы. (заходзяць за кулісу).

Уваходзяць, сунуцца ў супрацьлеглым кірунку.

ЛЮДЗЬВІГ (да Фрыдрыха) ... Лютар быў ворагам тэалёгіі, пазьней ён стаў яе прымаць, але толькі дзеля зьнешняй неабходнасьці, толькі з пункту гледжаньня яе карысьці для тэалёгіі. Ён, напрыклад, казаў: (пераймае голас і інтанацыю Лютара) "Я пераканаы, што сапраўдная тэалёгія ня здольная існаваць без навукі". У гэтым жа рэчышчы раіў філязофію і Меланхтон: (пераймае голас і інтанацыю Меланхтона) "У імя і на карысьць Бога, якога мы павінны бліжэй за ўсё браць да сэрца, я заклінаю вас не зьневажаць філязофію, неабходную дзеля тэалёгіі".

Выходзяць.

ДЗЕЯ ПЕРШАЯ

ПРАЯВА ПЕРШАЯ

Рэжысэр і Акторка.

АКТОРКА Гэтыя яшчэ хто?
РЭЖЫСЭР Гэта нямецкі тэатар, ставяць п'есу пра Лютара.
АКТОРКА А хто зь іх Лютар?
РЭЖЫСЭР Гэта два філёзафы: Фрыдрых і Людзьвіг...
АКТОРКА Прагнаў Драматурга?

РЭЖЫСЭР Ён сам пайшоў.
АКТОРКА І што будзеш рабіць далей?
РЭЖЫСЭР Буду думаць, працаваць. Як раней: ціха, спакойна.
АКТОРКА А як жа Скарына?
РЭЖЫСЭР Мне такі Скарына ня трэба.
АКТОРКА Нармалёвы Скарына. Ва ўсялякім разе, лепшы за Лютара.
РЭЖЫСЭР І чаму я тады не прыбраў ложак?
АКТОРКА Цябе з гэтым ложкам заклініла. Усё ж ідзе, як ты хацеў. Адзін толькі фрагмент, а ты кідаесься ў амбіцыі.
РЭЖЫСЭР Ды не на ложку мяне заклініла.
АКТОРКА А, ведаю. У цябе навязьлівая ідэя. Убіў сабе ў галаву, што я табе з Драматургам здраджваю. Таму й не прыймаеш ягонай драматургіі.
РЭЖЫСЭР Пра гэта я й думаць забыўся. Мне не за сябе, а за Бацькаўшчыну крыўдна. Мяне толькі адно дзівіць. Здаецца, свой хлопец гэты Драматург. Усё разумее, а піша такое, што агідна. Мы ж павінны адну справу рабіць. Ёсьць сацыяльны заказ - ушанаваць памяць Скарыны, а ён выдурвацца пачынае.
АКТОРКА Цябе гэта абурае? Вось і выдатна. На тое ж і разьлічана. Ён ідзе ад адваротнага. Ты бараніць Скарыну пачаў пасьля гэтай сцэны. Няўжо дагэтуль не зразумеў, што ён правакуе тваю любоў і павагу, выпрабоўвае? І ты купіўся.
РЭЖЫСЭР А мне няма чаго выпрабоўваць. Мне ня сьмешна, мне душа баліць і безь ягоных выкабельваньняў. Яны ж іржаць будуць, як коні.
АКТОРКА Вось у гэтым і ўся хохма. І сьмех, і грэх.
РЭЖЫСЭР Можа і ёсьць у гэтым нейкі сэнс. Але я гэтага не прыймаю. Глядзіш, і нібы табе сярпом па пэўным месцы.
АКТОРКА Можа, табе варта завесьці каханку ці, як мінімум, наведаць сэксапатолага?
РЭЖЫСЭР Можа, мне яшчэ ў вар'ятні палячыцца?
АКТОРКА Вар'ятня ад імпатэнцыі яшчэ нікога не ўратавала.
РЭЖЫСЭР Гэта ты сур'ёзна?
АКТОРКА Цалкам. Я маю цябе на ўвазе, як творцу.
РЭЖЫСЭР І на гэтым дзякуй.
АКТОРКА Тады ты яшчэ горш.
РЭЖЫСЭР Ня думаю.
АКТОРКА Ты баязьлівец.
РЭЖЫСЭР А вось тут ты памыляесься.
АКТОРКА Ты за сябе баісься. Пастаў гэта дзеля мяне.
РЭЖЫСЭР Гэта забаронены прыём, так нельга.
АКТОРКА Я на гэта і разьлічваю. Тады ты зробіш гэта дзеля мяне?
РЭЖЫСЭР Драматург сыйшоў, мне самому неяк няёмка яму тэлефанаваць. У нас ня тыя адносіны.
АКТОРКА А калі ён сам зараз прыйдзе, першы руку падасьць, а ты яшчэ падумаеш: паціскаць ці не?
РЭЖЫСЭР Ды я сам бачыў, як ён зьяжджаў.
АКТОРКА Дык ты мне не адказаў.
РЭЖЫСЭР Дзеля цябе я згодны на ўсё.
АКТОРКА Ну дык глядзі, вунь ён стаіць.

ПРАЯВА ДРУГАЯ

Тыя ж і драматург.

ДРАМАТУРГ Вітаю паньства.

РЭЖЫСЭР Мы тут параіліся. Слабая сцэна зь Лютарам. Ты зможаш зрабіць мацней?

ДРАМАТУРГ У якім сэнсе мацней?

РЭЖЫСЭР Гуляць, дык гуляць. Давай адмочым фарсік.

ДРАМАТУРГ А ты потым не забаісься? Трапятацца ня будзеш?

АКТОРКА Ён у мяне не баязьлівы.

ДРАМАТУРГ Глядзі.

РЭЖЫСЭР У цябе ёсьць прапановы?

ДРАМАТУРГ Ёсьць. Мелангтон таксама быў жанаты. І ягонай жонцы надта спадабаўся Скарына.

РЭЖЫСЭР Гэта пасьля таго, як ён вярнуўся ад Лютара?

АКТОРКА А мне там роля будзе?

ДРАМАТУРГ Расклад застаецца ранейшы. Але сітуацыя ўскладняецца. Скарына, як і абяцаў табе, спойвае Мелангтона, можа нават падсыпае соннага зельля. Але нечакана да яго пачынае заляцацца пані Мелангтонава.

РЭЖЫСЭР Пайшлі працаваць.

Выходзяць.

і н т э р м э д ы я

З-за кулісы ўваходзяць філёзафы: Фрыдрых і Людзьвіг, сунуцца праз сцэну. Гавораць па-нямецку, не зважаючы на залю.

ФРЫДРЫХ (да Людзьвіга) Што добра? Усё, з-за чаго ў чалавеку ўзрастае пачуцьцё ўласнае сілы, прага ўлады, велічы. Што блага? -- Усё вытворнае ад слабасьці. Што шчасьце? - Пачуцьцё ўзрастаньня моцы, улады, пачуцьцё, што пераадолеў новую перашкоду. Дык няхай гінуць слабыя і выродкі - першы запавет нашай дабрачыннасьці. Трэба дапамагчы ім загінуць. Што больш шкоднае за грэх? - Спачуваць слабым - хрысьціянства...

Заходзяць за кулісу, праз хвіліну зьяўляюцца зноў, ідуць у адваротным кірунку.

ЛЮДЗЬВІГ (да Фрыдрыха, пераймае голас і інтанацыю Лютара) "Хто ня любіць віна, жанчын і сьпеваў, той на ўсё жыцьцё застанецца дурнем." (гаворыць сваім голасам) Гэтае Лютарава выслоўе, няхай сабе й ня лічыцца ў сьвятых кнігах і адпаведна не зьяўляецца афіцыйным, але, тым ня менш, добра і дакладна эрагумнае, яно мае ўсеагульнае значэньне, нават у рэлігійных адносінах...

Сыходзяць за супрацьлеглую кулісу.

ДЗЕЯ ДРУГАЯ

ПЕРШАЯ

...Мелангтона. Гасьцёўня, абапал дзьве спачывальні. Уваходзеры. На вокнах фіранкі. На стале бутэлькі. Рэжысэр і ... за столікам зь мікрафонам. Рэжысэр кратае мікрафон. ... пані Мелангтонава, Скарына за сталом у гасьцёўні

МЕЛАНГТОН Не, хай пан мяне не пераконвае. Вядома, прафэсар вышэй за доктара, але ж пан двойчы доктар, і гэта больш за прафэсара. Таму пану Францішку належыць спаць у лепшай спачывальні, а мы з пані Мелангтонавай пяройдзем у тую (паказвае) спачывальню для гасьцей. А што ў нас так цёмна?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Цёмна? Ня можа быць, праўда, Францішак?

СКАРЫНА Сьвятла на тое, каб легчы спаць, дастаткова.

МЕЛАНГТОН Сапраўды, час класьціся спаць. Тэалягічныя дыспуты з братам Лютарам вельмі стамляюць. Пра што вы гаварылі?

СКАРЫНА Пра значэньне сьвятых рэліквій.

МЕЛАНГТОН (устае, хістаючыся ідзе ў спачывальню на правы бок сцэны) Гутэн нахт, гэр Францішак (падае ў ложак, нерухомее).

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (абдымае Скарыну) Ты добра разумееш мову жэстаў. Дастаткова было аднаго позірку, каб ты з'арыентаваўся.

СКАРЫНА Гэта твая ідэя са спачывальняй?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Табе не падабаецца, што разам з гаспадарскай спачывальняй у твае рукі трапілася і сама гаспадыня?

СКАРЫНА Не, я проста кепска засынаю на новым мейсцы.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА А ты зьбіраесься спаць?

СКАРЫНА Але і спаць таксама. Ты ж чула, тэалягічныя дыспуты так стамляюць, нават прафэсароў.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (пачынае распранаць Скарыну) І якую асалоду толькі знаходзяць мужчыны ў гэтых размовах? Не разумею

СКАРЫНА Ты маеш рацыю. У гэтым я сёньня пераканаўся ў брата Лютара (пачынае распранаць пані Мелангтонаву).

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Чакай, трэба згасіць сьвятло, яшчэ хто праз вакно пабачыць.

Абодва ходзяць, гасяць сьвечы.

СКАРЫНА Ну й цемра. Нічога не відаць (выцягвае перад сабой руку, мацае паветра).

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Не згубіся, хадзі да мяне.

Ідуць насустрач адно аднаму.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Дзе ты? (чапляецца за ложак, падае ў яго).

Скарына кіруецца на гук, таксама чапляецца і падае на пані Мелангтонаву.

СКАРЫНА Нарэшце, цяпер ня згубімся.

Мілуюцца.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Куды ты так сьпяшаесься? Цэлая ноч наперадзе.

СКАРЫНА Віта брэвіс - жыцьцё кароткае, як сьцьвярджалі рымляне. Што ж тады казаць пра ноч?

Скарына і пані Мелангтонава працягваюць мілавацца.

ПРАЯВА ДРУГАЯ

З ўваходных дзьвярэй зьяўляецца разгублены Лютар.

ЛЮТАР Ну й цемра (падносіць руку да вачэй). Нават пальцаў не відаць. Няёмка будзіць брата Меланхтона, але што зробіш, трэба папярэдзіць і яго. (навобмацак падбіраецца да ложка, дзе мілуюцца Скарына з пані Меланхтонавай).

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (віскнуўшы) Хто тут?

ЛЮТАР Гэта я, брат Лютар. Ня варта палохацца, пані Меланг-тонава.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (прыглушана вішчыць яшчэ раз, накрывае Скарыну коўдрай з галавой) Што можа спатрэбіцца ў такі час?

ЛЮТАР Брат Меланхтон сьпіць?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Так... толькі ён...

СКАРЫНА (шэптам з-пад коўдры) Цішэй, бо пабудзіш.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Каго?

СКАРЫНА Мяне..., Меланхтона.

ЛЮТАР Брат Меланхтон, у мяне адно пытаньне. Скарына тут?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Тут? Тут яго няма, адкуль ён возьмецца ў нашай спачывальні, ён...

СКАРЫНА (перабівае) Яшчэ не было, не прыйшоў. А што здарылася?

ЛЮТАР Нешта ў цябе голас зьмяніўся, і чаму ты шэптам гаворыш?

СКАРЫНА Захварэў я, брат Лютар, цяжка, вось і падняцца не магу, і сьвятло не выношу, вочы рэжа, так што выбачай, давядзецца сядзець у цемры.

ЛЮТАР Бачыш, і з табой кепска, я прадчуваў гэта, таму і прыйшоў папярэдзіць. Скарыну ў доме не прыймай, мне ўжо даўно казалі, што ён найхітрэйшы прайдзісьвет, езуіт і папскі шпіён. Мяне папярэджвалі, што яму біскупы дзьве тысячы залатых далі, каб нас з табой са сьвету зжыў. Казалі, сьцеражыся доктара Францішка-каталіка. І як я адразу ня ўспомніў? Не зразумеў, што гэта ён?

СКАРЫНА Блытана гаворыш, брат Лютар. І кажы цішэй, мне вушы таксама баляць.

ЛЮТАР Ведаеш, гэта, хутчэй за ўсё, Скарына цябе зачараваў ці атруціў чым.

СКАРЫНА З чаго ты гэта ўзяў?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Ён жа такі прыемны чалавек, адукаваны, выкшталцоны.

ЛЮТАР Брат Меланхтон, я хацеў бы з табой сам-насам перамовіць.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Куды гэта я са сваёй спачывальні пайду?

СКАРЫНА Хто ў доме гаспадар? Калі ласка, пачакай у іншым мейсцы.

Пані Меланхтонава ідзе, кладзецца ў ложак да Меланхтона. Той сьпіць і не рэагуе.

ЛЮТАР Ня ведаю, як прызнацца. Бо надта ж далікатная тэма (намацвае край ложка, сядае).

СКАРЫНА (адсоўваецца на другі край) Але ж мне ты можаш прызнацца, нас ніхто чужы не пачуе.

ЛЮТАР Ёсьць у мяне адно сумненьне наконт Скарыны і маёй жонкі. Увечары прыходжу дадому, а ён у маёй спачывальні без нагавіц ходзіць, і жонка аголеная ў ложку. Ад нечаканасьці да мяне не адразу дайшло. Бо такога нахабства я сабе і не ўяўляў. Не пасьпеў я з'арыентавацца, а яны адразу выкручвацца пачалі. І гэты Скарына, сьлізкі, як гад, на кожнае пытаньне ў яго па тры адказы, затлуміў галаву і высьлізнуў з дому. З жонкай я

разьбяруся. Я гэтаму не дарую. Весь [illegible]
ца, як да свайго духоўнага брата.

СКАРЫНА Так, непрыемная гісторыя, брат Лютар. Але можа ты памыляесься? Слугу свайго распытай.

ЛЮТАР Гэты Скарына так слугу напалохаў, што той спачатку ўцёк, а як вярнуўся, то яму й мову адняло, калоцiцца ўвесь.

СКАРЫНА Раней за такія рэчы забівалі на мейсцы.

ЛЮТАР Ды я ведаю, але ж я сьвятар.

СКАРЫНА Ну тады застаецца адно - напіцца. Пойдзем, брат Лютар, возьмем на стале пляшку і вып'ем, а Скарына вернецца, мы зь ім і разьбярэмся.

Ідуць у гасьцёўню, бяруць келіхі й бутэльку, вяртаюцца ў спачывальню. Лютар п'е віно.

ЛЮТАР А ты што ня п'еш?

СКАРЫНА Зараз.

Лютар п'е папраўдзе. Скарына кожнага разу гучна пераліває віно з келіха ў келіх.

ЛЮТАР Нейкі дзіўны прысмак у твайго віна, часам Скарына да яго не падыходзіў? Мо падсыпаў чаго?

СКАРЫНА Не, не падыходзіў. Гэта карчмар цьвілой вадой разводзіць.

ЛЮТАР Хоць і разьведзенае, а ў галаву дало. Відаць, дадому я ўжо не пайду, ды й жонцы сказаў, што зьяжджаю ў Таргаў. Мы ж з табой заўсёды, калі што, для жонак у Таргаў едзем. (спрабуе ўстаць, намацвае выпадкам Скарынавы нагавіцы, намысьлiваецца, яшчэ раз дакладна іх абмацвае) Дык гэта ж нагавіцы сьвятога Георгія?

СКАРЫНА Што ты там знайшоў?

ЛЮТАР Нагавіцы сьвятога Георгія, ды не, Скарынавы нагавіцы. Я іх навобмацак пазнаў.

СКАРЫНА Ну падумай сам: адкуль у маёй спачывальні могуць быць ягоныя нагавіцы? Што ён, без нагавіцаў ходзіць?

ЛЮТАР І я так раней думаў. А сёньня вярнуўся дадому, а ў ложку ў жонкі яны ляжаць, ня йначай д'ябальская рэч.

СКАРЫНА Гэта ж ты апошнім часам у Таргаў езьдзіш, а я з жонкай сам, кожную ноч. Прымроілася табе. Давай лепш яшчэ па адным вып'ем і будзем класьціся спаць.

ЛЮТАР (кладзе нагавіцы) Разьвіднее, пабачым, што гэта такое (п'е віно). Гэта ж не твае нагавіцы?

СКАРЫНА Не. Заставайся ў маёй спачывальні, а я да жонкі пайду, яна заснула, відаць, там.

ЛЮТАР Прыйдзе Скарына, пабудзі мяне, заб'ю гада.

СКАРЫНА Абавязкова.

Лютар падае ў ложак і нерухомее. Скарына выходзіць у гасьцёўню.

СКАРЫНА Напэўна, трэба тэрмінова пакінуць Вітэнбэрг. Зараз яшчэ як Лютарова прыйдзе..., лепш, каб мяне на гэты момант не было тут. Хай самі тут разьбіраюцца.

Скарына асьцярожна, бязгучна кіруецца да ўваходных дзьвярэй. У той час устае пані Мелангтонава і йдзе шукаць Скарыну.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Францішак, Францішак...

Скарына моўчкі прыціскаецца да сьцяны, спрабуе застацца незаўважаным. Пані Меланґтонава выпадкова ў цемры намацвае Скарыну.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Вой, хто гэта?
СКАРЫНА Гэта я, Лютар.
ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (вобмацкам высьвятляе, што Скарына без нагавіц) А чаму тады пан Лютар ходзіць без нагавіц? Хопіць дурэць, Францішак (спрабуе сьцягнуць са Скарыны мантыю).
СКАРЫНА (трымае мантыю аберуч) Ты што, звар'яцела? Тут, на калідоры? А раптам Лютар выйдзе?
ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА А хто ў доме гаспадар? Ты ж Меланґтон, дзе хочаш, там і маркітуесься.
СКАРЫНА Я нават і не як Меланґтон, дзе хачу, там і маркітуюся. Але, калі мяне пазнае Лютар, дык заб'е, толькі што прасіў мяне дапамагчы яму ў гэтым, сядзіць, цікуе. Думаеш, ён сьпіць?
ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА То што ж рабіць?
СКАРЫНА Ідзі, кладзіся да мужа ў сваю спачывальню, яшчэ не хапала мне, каб ён спахапіўся.

Скарына і пані Меланґтонава ходзяць вакол стала.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА А ты? Табе ж бегчы тады трэба, уцякаць. Вяжы, Францішак (цягне яго да ўваходных дзьвярэй).
СКАРЫНА Без нагавіц? Ты йдзі, кладзіся, я з астатнім сам разьбяруся (бярэ пані Меланґтонаву за руку й пахапкам цягне да ложка, дзе сьпіць Лютар). Хутчэй.

Пані Меланґтонава абмацвае ложак, знаходзіць соннага Лютара.

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Сьпіць як забіты.
СКАРЫНА Затое Лютар ня сьпіць. Не чапай ліха, пакуль сьпіць ціха. Бывай (крадзецца да ўваходных дзьвярэй).

ПРАЯВА ТРЭЦЯЯ

У гэты час у дом заходзіць пані Лютарова. Яны бязгучна крадуцца насустрач адно аднаму, сутыкаюцца.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Францішак? Ты чакаў мяне? (абдымае).
СКАРЫНА А хто ж яшчэ? Зачакаўся я на цябе. Ня ведаў ад суму, што й рабіць.
ПАНІ ЛЮТАРОВА Ведаеш, нам пашанцавала. Марцін у Таргаў зьехаў. Мы нагонім тое, што ўпусьцілі, усю ноч разам будзем.
СКАРЫНА Хадзем, я ўжо ледзь на нагах трымаюся (вядзе яе за руку ў спачывальню да Меланґтона, спыняецца каля ложка). Распранайся, а я ўжо лягу, зьмерз на калідоры стоячы.
ПАНІ ЛЮТАРОВА (распранаецца) Нічога, зараз сагрэю.

Скарына паціху сыходзіць, на калідоры спыняецца ў разгубленасьці, абмацвае свае голыя лыткі.

ПАНІ ЛЮТАРОВА (кладзецца побач зь Меланггонам, абдымае яго) Казаў, што зьмерз, а сам такі гарачы. Дык ты заснуў? Не, спаць я табе ня дам (катурхае Меланггона), Францішак.

СКАРЫНА Ну, усё, пачалося. Ды гары яно гарам такое кахань-не, разам з тымі нагавіцамі й сьвятым Георгіем (зьнікае за дзьвярыма).

ПАНІ ЛЮТАРОВА Прачынайся, не прыдурвайся (садзіць Меланг-тона на ложак, спрабуе распрануць). І калі напіцца пасьпеў?

Меланггон валіцца на падлогу, прачынаецца.

МЕЛАНГТОН Ты што, ты што робіш? Ведаеш, як мне зараз блага (залазіць у ложак). Знайшла час на гулі (спрабуе заснуць).

ПАНІ ЛЮТАРОВА Сам запрасіў, а цяпер спаць завальваесься? Не, так ня пойдзе (трасе Меланггона).

МЕЛАНГТОН Адчапіся, кажу. Я стары, хворы чалавек.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Я цябе зараз вылечу. Гэта ўсё цемра. Зараз фіранкі адсуну, як пабачыш мяне ў месяцовым сьвятле - адразу акрыяеш.

Устае з ложку, адсоўвае фіранкі. Выходзіць на сярэдзіну па-коя, прымае спакусьлівую позу.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ну, чым я горшая за Марыю-Магдалену?

На ложку змрочны й хворы Меланггон паволі падымае галаў. Некаторы час моўчкі глядзяць адно на аднога.

МЕЛАНГТОН Піць трэба менш, бо пачала сьніцца розная брыда. Добра хоць пані Лютарова прымроілася, а ня Лютар з голай ду-пай (зноў укладваецца спаць, замест коўдры насоўвае на сябе сукенку пані Лютаровай).

Пані Лютарова на дыбачках падкрадаецца да Меланггона, спра-буе забраць сукенку, той гучна сапе й цягне сукенку да сябе. У гэты час прачынаецца Лютар, прыслухоўваецца.

ЛЮТАР О, відаць Скарына вярнуўся. Пайду зірну, што там ад-бываецца, ці не мая жонка прыцягнулася? (устае, ідзе да пані Лютаровай і Меланггона) Я так і думаў! Гэта ўжо занадта (ад-штурхоўвае ў бок пані Лютарову, кідаецца да Меланггона, таўчэ яго ў галаву) Гэта табе за першы раз, гэта табе за нагавіцы сьвятога Георгія, гэта табе... (таўчэ з асалодай) Заб'ю! (заўважае, што гэта не Скарына, спыняецца з узьнятай рукой) Брат Меланггон???!!! З маёй жонкай???

МЕЛАНГТОН Ці то я звар'яцеў, ці то яны пашалелі?

ЛЮТАР І гэта пасьля таго, што я табе расказаў?

МЕЛАНГТОН Дарма ты так, брат Лютар... Цягаесься па начах са сваёй жонкай. Кідаесься біцца.

ЛЮТАР Я табе душу раскрыў. А ты мяне завёў, здраднік, каб у суседнім пакоі з маёй жонкай забаўляцца?

ПАНІ ЛЮТАРОВА (забірае ў Меланггона сукенку, апранаецца) Гэта ты так у Таргаў езьдзіш, Марцін?

ЛЮТАР А ты маўчы, з табой дома разьбяруся.

МЕЛАНГТОН Каб я зь ёй, ды нашто яна мне трэба, у мяне свая ёсьць. (заўважае, што няма пані Меланггонавай) Клаўся, побач была...

ЛЮТАР І я да цябе ішоў - сваю дома пакідаў, а яна, бач,

дзе апынулася. Я да цябе, як да брата прыйшоў, а ты мне рогі наставіў.

МЕЛАНГТОН Куды маю жонку падзелі, вар'яты? І наогул, адкуль вы тут узяліся абодва.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Я па муха прыйшла. Ды, відаць, пакоі паблытала.

ЛЮТАР Ты ж мяне сам у тым пакоі пасадзіў Скарыну чакаць, мы з табой выпілі там, я табе даверыўся. Ты ж сам і жонку выправіў, каб размове не замінала.

МЕЛАНГТОН Ды я са Скарынам піў, ты ўжо ўшчэнт ашалеў, брат Лютар...

ПАНІ ЛЮТАРОВА Ну во, дапіліся сьвятары, горш за каталікоў, ужо ня памятаюць, хто з кім піў.

ЛЮТАР Дык ты яшчэ й са Скарынам п'еш пасьля таго?

МЕЛАНГТОН Ён хоць біцца ня кідаецца, як вып'е. А ты, як злодзей, залез у дом. (Меланггон устае) Вярзеш абы што - жонку я выправіў...

ПАНІ ЛЮТАРОВА А ты, ты нашто сюды прыцягнуўся?

ЛЮТАР Ты мне тут не выкручвайся, ня блытай. Я там Скарыну чакаў.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Дзе, дзе ты яго чакаў? Гэта ты мяне ня блытай.

ЛЮТАР Вось тут. (вядзе Меланггона і пані Лютарову да ложку, дзе ўжо прачнулася пані Меланггонава) Ты ж мяне сам там паклаў.

Пані Меланггонава хаваецца пад коўдрай.

МЕЛАНГТОН (рассоўвае фіранкі) Скарыну я тут клаў, вось ён і сьпіць.

ПАНІ ЛЮТАРОВА (сьцягвае коўдру з пані Меланггонавай) Гэта ты зь ёй Скарыну чакаў? (б'е Лютара па твары).

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА (да Меланггона) Што яны тут робяць у гэты час?

МЕЛАНГТОН Не, гэта я хачу ведаць, што ты тут зь Лютарам выраблядла?

ЛЮТАР Яе не было са мной.

МЕЛАНГТОН А дзе ж яна была?

ЛЮТАР Тут, з табой забаўлялася, як я прыйшоў, праўда, пані Меланггонава?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Ні з кім я не забаўлялася.

МЕЛАНГТОН Вы мне тут не змаўляйцеся, галаву не дурыце. Ты, брат Лютар, хітрун: Скарыну выправіў, жонку сваю да мяне падаслаў, каб спакушала, а сам з маёй. І як толькі пані Лютарова на такое згадзілася?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Вы мяне ў свае брудныя справы ня блытайце, я за мужам сачыла, адно пакоі паблытала.

ЛЮТАР За мужам сачыла. А нашто Меланггона суквнкай накрывала?

ПАНІ МЕЛАНГТОНАВА Ды вы што, не разумееце, гэта ж д'ябальскія штукі?

ПАНІ ЛЮТАРОВА Сапраўды, чары нейкія.

ЛЮТАР Я табе, брат Меланггон, яшчэ ноччу казаў, каб Скарыну ў дом не пускаў, гэта ўсё ён, ён і мне спачывальню зачараваў.

МЕЛАНГТОН Ды нічога ты мне не казаў. Ноччу я, як нармальны чалавек, выпіў і спаць лёг з жонкай, вунь там. Гэта ж ты па начох цёгаесься.

ЛЮТАР Не, там ты спаць клаўся. Я ж ведаю. Ты тут з жонкай быў.

МЕЛАНГТОН Ты хочаш сказаць, што я сам сыйшоў, а жонку табе пакінуў? Не, тут Скарына спаў.

ПАНІ ЛЮТАРОВА Я ж казала, зачаравалі ўсіх нас.

Лютар выцягвае з-пад коўдры Скарынавы нагавіцы.

ЛЮТАР Вось яны, нагавіцы сьвятога Георгія. (бярэ нагавіцы, шукае дыплёмы) А дыплёмы свае, гад, зьнёс, чысты д'ябал.

ДЗЕЯ ДРУГАЯ

ПРАЯВА ПЕРШАЯ

Тыя ж.

РЭЖЫСЭР (у мікрафон) Дастаткова. Усе вольныя.

ДРАМАТУРГ Дзякуй.

Лютар, Мелангтон, пані Лютарова, пані Мелангтонава выходзяць.

РЭЖЫСЭР І што далей рабіць?

ДРАМАТУРГ Сцэну ў магістраце. Далей на самой справе было вось што: Лютар запатрабаваў ад магістра, каб гэтага інтрыгана ад д'ябла Францішка падвергді катаваньню, але з магістрам здарылася тое ж, што зь Лютарам і Мелангтонам. Вучоны й далікатны чужаземец быў адпушчаны з простай парадай пакінуць Вітэнбэрг. Уяўляеш, як можна расклясьці сцэну ў магістраце? Усіх па чарзе выклікаюць сьведкамі.

РЭЖЫСЭР А ты ўяўляеш, што пасьля гэтага з намі зробяць пратэстанты?

ДРАМАТУРГ То табе Скарына мой не падабаецца, то Лютаранскай царквы збаяўся.

РЭЖЫСЭР Мяне, дарэчы, з маім тэатрам у турнэ запрасілі па Скарынаўскіх мясьцінах: Прага, Падуя, Вітэнбэрг, Кёнігзбэрг. Як я гэта немцам пакажу?

ДРАМАТУРГ І ў гэтым уся праблема? Для Эўропы зробім другі варыянт: усё тое самае, толькі Скарына ў Маскве.

РЭЖЫСЭР І з кім ён у Маскве сустракаўся?

ДРАМАТУРГ Васіль III, ягоная жонка Алена Глінская, дарэчы, беларуская княжна з Полацка.

РЭЖЫСЭР Васіль III? Дык гэта ж бацька Івана Грознага, першага рускага цара.

ДРАМАТУРГ Вось у гэтым і ўся хохма. Скарына наведаў Маскву, сустракаўся з Аленай Глінскай у 1529 годзе, у сьнежні, а ў жніўні 30-га нарадзіўся Іван Грозны.

РЭЖЫСЭР Нашто нашаму Скарыну сын вырадак? А ты ня маніш?

ДРАМАТУРГ А ты думаў, Скарынаву Біблію дарма ў Маскве палілі?

РЭЖЫСЭР У Германіі гэта можа пайсьці.

ДРАМАТУРГ Вось і дамовіліся: немцам пакажаш Івана Грознага, а маскалям Лютара.

Рэжысэр сыходзіць.

ПРАЯВА ДРУГАЯ

У спачывальні Меланґтона зьяўляецца Акторка.

АКТОРКА Ты зь ім дамовіўся?
ДРАМАТУРГ Ня ведаю. Яму хочацца і вашым, і нашым.
АКТОРКА А нам чаго хочацца?
ДРАМАТУРГ Нам хочацца жыць.
АКТОРКА Ты напішаш Алену Глінскую пад мяне?
ДРАМАТУРГ Так.
АКТОРКА А ты шмат жаночых роляў напісаў?
ДРАМАТУРГ Для цябе адну пакуль што.

Міяуюцца.

ЗАСЛОНА

# ІГАР БАБКОЎ

## У ШПІТАЛІ

ніщто не гаворыць тут
аб распнутым Хрысьце
сьвет дасканалы

і толькі сьнег (вы прынялі лекі?) белы
бясконцы
ВЫ ПРЫНЯЛІ ЛЕКІ?! толькі сьнег
белы белы бясконцы

ратуе

## РЭЧЫ

у прысаку веры
нібыта сон:
рэчы блізка

фіранку адгарні
угледзься
дрэва: ДРЭВА

у сьвет прарасло, але
разумею
і сябе нібы рэч:

метафізік у цемры

## ПРЫТУЛАК

зьнерухомеў
як птушка сівы нечаканы
як майя празрысты

сьніў сябе садам
у якім
тайна прытулак

## ІМЯ

аркуш паперы
як сьмерць апрыёрны
імя сваё назаві

засьні
у зыбкім урочаным часе
друзлым, зямным

ЁН

у адхіленьні ад сьвету
ён самотны жыве
быццам халодны агонь
у хаце пакінутай, вечар
сумныя вочы схаваў
у сутанелых пакоях

зеляніна шпалераў -
знак патаемны, ціха расьце
ратуе, толькі
О ТОЛЬКІ! НІХТО І НІКОЛІ

ніколі ня ўбачыць

к а л ё к в і ю м ы

1. МІЗЭРНЫ ЧАС

А: Божухна!
Б: (маўчыць) Я слухаю.
А: Мяне ніхто ня чуе.
Б: (маўчыць)
А: Мяне ніхто ня слухае... так... мізэрны час, мізэрны, мізэрны... аб чым можна казаць... толькі маўчаць...
Божухна!
Б: Я слухаю.
А: Яны кажуць столькі маны, што мне застаецца толькі маўчаць... яны кажуць столькі бессаромнай крывадушнай маны, што мне застаецца толькі памерці... мізэрны час.., маўчаць...
крывадушная вільгаць у паветры... няма дзе скавацца... няма заўтра, ёсьць толькі тут, цяпер, скокі ашалелых словаў, што рэпрэзэнтуюць міф, космас, нашае сьветлае заўтра...
Божухна!
Б: Я слухаю.
А: Яны не пакінулі нам нават маўчаньня!
Як толькі я сядаю да стала, бяру аркуш паперы, пачынае дрынкаць гэтая разьвясёлая музычка... аднекуль бярэцца разьвясёлая музычка і пачынае дрынкаць так, што шкло ў шыбах стогне і дрыжыць, надыходзяць эдані і пачынаюць эграбна-аптымістычныя скокі... Божухна!
Ты думаеш, я вар'ят?
Б: Я слухаю.
А: Не, я проста знэрваваны чалавек... сучасны знэрваваны чалавек... і я не люблю, калі эданi пачынаюць аптымістычна скакаць у мяне ў пакойчыку!
Б: Я слухаю.
А: Я таксама слухаю. Сядаю перад аркушам і слухаю, што мне скажуць словы...
Яны нічога ня кажуць...
Божухна, ты помніш, як годна ён абвясьціў з катэдры, што абсурд - гэта калі чалавек пытаецца, а сьвет маўчыць?
... маўчаць... дзе тыя катэдры, застаўся толькі пакойчык,

ува ўсім сьвеце застаўся толькі пакойчык... засталося толькі маўчаць...

Мае валасы пабраліся сівізной за гэты час.

Час балбатні.

Б: Я слухаю.

А: Перад чыстым аркушам: адкуль нараджаюцца словы? Не з рэчаіснасьці, не, - там яны паміраюць... Адкуль жа?

І якімі яны будуць, словы, што нарадзіліся пад разьвясёлую музычку мізэрнага часу?

Б: Я слухаю.

А: Хоць бы ты слухаеш... гэты нязбытны балаган так шчыльна падыходзіць да чалавека... ягоныя метастазы ў душы, у сэрцы, у розуме... няма куды падзецца, паўсюль гэтыя скокі... мізэрнага часу... гэтыя чэргі, задуха ў пакойчыках, дзе людзі таргуюцца і крычаць, увесь час крычаць... нібы селядцы ў бочцы... і ўсё гэта пад музычку, пад аптымістычную музычку мізэрнага часу...

А вочы! Ты зазірні ў іхнія вочы... у гэтых вачах пранізьлівы боль, цьмянае адчуваньне з768торганага і змардаванага жыцьця, туга па чамусьці сьветламу, што магло б быць, а яго ўсё няма... і магчыма ня будзе ніколі...

... толькі гэтыя зданi, якія заўсёды тут, дзе б ты ня быў, яны заўсёды тут.

Божухна!

Б: Я слухаю.

А: Часам я падыходжу да аднаго зь іх і пытаюся: Чаму ты такі? Дзе твая вольнасьць? Дзе твая душа? Дзе тваё сэрца? Чаму ты дазваляеш сабе быць рабом? Чаму ты скачаш пад гэтую музычку?

І тады ён адказвае: Майце шкадаваньне, не прымушайце мяне згадваць... я сплю... мне добра спаць... калі я прачнуся і ўбачу, мне застанецца толькі памерці... пашкадуйце мяне... зазірніце ў мае вочы... там боль... не павольшвайце гэты боль... майце шкадаваньне...

Б: Я слухаю.

А: Я ўсё сказаў, Божухна, мне застаецца толькі маўчаць... Мне застаецца толькі памерці...

Пайсьці ў тую ноч... цішыня сустрэне мяне там і пакладзе свае цёплыя рукі мне на плечы...

О, якая гэта будзе цішыня!

(сьмяецца)... так... чалавек толькі вандроўнік... выходзіць у дарогу з нараджэньня, прыходзіць у сьмерць...

Кім я быў да нараджэньня? Кім буду пасьля скону?

Трэскай? Матылём? Іншым чалавекам?

Калі параўноўваць з сапраўднасьцю гэтых таямніц, кім ты ёсьць, няшчаснае жыцьцё?

Кароткі шпацыр, сон?

Але чаму гэты сон, гэты балаган, гэтая музычка?

Б: Я слухаю.

А: Калі я думаю пра сьмерць, пра цішыню, калі я думаю пра вялікія і сапраўдныя рэчы, я чуюся вольным ад усяго, я прыймаю жыцьцё, я прыймаю і разумею НАВАТ ГЭТАЕ ЖЫЦЬЦЁ!

Б: Я слухаю.

А: А мова?! Што яны зрабілі з мовай! Яны прыдумалі словы, якія нічога ня значаць, і выкрэсьліваюць тыя, што значаць зашмат, яны стварылі індэксы імёнаў, якія можна ўжываць і якія ўжываць нельга, яны... яны... яны...

Чаму я пішу, Божухна?

Б: Я слухаю.

A: Чаму я ўпарта штосьці пішу, хоць ужо ня ведаю, каму й навошта? Што я магу прапанаваць ім, якое веданьне?

Толькі боль. Свой боль.

Пакутую - значыць, існую?!

Бедны, бедны Картэзі, ён вымушаны прызнаць, што яго абрабавалі, бязьлітасна, да апошняй кашулі...

Божухна!

Б: Я слухаю.

A: Якую мудрасьць я магу прапанаваць гэтым людзям, калі я нават ня ўпэўнены, што існую... магчыма на самой справе я толькі чыёсьці трызьненьне, фантом працяглага й неспакойнага сну...

Хто мяне сьніць, Божухна!

Б: Я слухаю.

A: О, мой сьветлы божа, я гатовы...

Я гатовы прыняць гэты лёс, гэтае выпрабаваньне, абы ведаць, што гэта мае сэнс, што гэта не пустое трызьненьне перад узыходам сонца, ад якога не застаецца нават памяці...

Дай мне знак, Божухна!

(маўчаньне, потым крык)

-ааааааааааааааааааааааааааааа-

Б: (памаўчаўшы) Я слухаю.

2. ТРЭЙЦЯЯ ЭЎРАПЭІЗАЦЫЯ

а: цяпер мы ўсё бачым па-іншаму

б: (маўчыць)

а: па-іншаму

б: але

а: і таму мы прыйшлі, каб распытаць пра яго

б: (маўчыць)

а: ён быў адзін з папярэднікаў, рыхтаваў трэйцюю эўрапэізацыю

б: так?

а: але гэта мы зразумелі толькі цяпер, калі мы ўсё бачым па-іншаму

б: я нічога ня ведаю

а: хаця б што-небудзь

б: нічога

а: нічога?

б: нічога

а: які ён быў?

б: ня ведаю

а: высокі ці невысокі, стары ці малады, вясёлы ці сумны, мужчына ці жанчына?

б: ня ведаю

а: (крыку памаўчаўшы) але ж гэта быў чалавек, я маю на ўвазе, гома сапіенз?

б: (павагаўшыся) напэўна... ён часам крычаў... напэўна, гэта быў чалавек

а: а як ён крычаў, моцна або ціха?

б: ня ведаю

а: што ня ведаеш?

б: ён хадзіў увесь час, нешта казаў сабе самому, а часам крычаў

а: так, і цяпер мы ўсё бачым па-іншаму
б: клетка была маленькая і ён быў там адзін
а: але ж ты яго бачыў?
б: ён хіхча пісаў нешта, на паперы, а потым прыходзілі й забіралі
а: хто забіраў?
б: ня ведаю
а: хаця б што-небудзь
б: нічога
а: ён крычаў... яго білі?
б: (павагаўшыся) не, напэўна
а: а чаму ён крычаў?
б: ня ведаю... клетка была маленькая і ён быў адзін
а: ён рыхтаваў трэйцюю эўрапэізацыю
б: так, і цяпер мы ўсё бачым па-іншаму
а: напэўна, ён меў душу?
б: напэўна
а: ён быў паэт?
б: ня ведаю... ён хадзіў увесь час, нешта казаў сам сабе, а часам крычаў
а: а дзе ягоныя паперы?
б: ня ведаю... ён быў адзін, а потым прыходзілі й забіралі
а: хто забіраў?
б: яны
а: а! (памаўчаўшы) а іх было шмат?
б: ня ведаю
а: колькі?
б: тры ці чатыры
а: і ён дазваляў ім забіраць?
б: а што ён мог зрабіць, іх было болей
а: і што было далей?
б: нічога, ён проста хадзіў па клетцы, а потым крычаў
а: моцна?
б: ня вельмі, але мы чулі
а: а клетка была вялікая?
б: не, маленькая, і ён вельмі пакутаваў
а: а чаму ён сядзеў у клетцы?
б: ня ведаю, ён быў адзін
а: яго пасадзілі?
б: не, напэўна, ён вельмі пакутаваў
а: а ён не казаў табе, чаму?
б: не, ён казаў сабе самому
а: ён кахаў каго-небудзь?
б: ня ведаю... напэўна, не
а: чаму ты так думаеш?
б: ён быў заўсёды адзін
а: у яго былі дзеці або вучні?
б: не, ён быў адзін
а: а ты?
б: я (павагаўшыся) мы часам заходзілі
а: і што, нічога не засталося?
б: нічога
а: а дзе ён цяпер, яго забілі?
б: ня ведаю... не, ён проста памёр
а: дзе памёр?
б: напэўна, там, у клетцы
а: і што?
б: нічога... ён рыхтаваў трэйцюю эўрапэізацыю

# Сяргей Астраўцоў

## КІСЛАЕ ВІНО

Пляц імя Зруйнаваньня Бастыліі. Па іроніі лёсу паўночны бок яго ўпіраўся ў мур колішняга кляштара, у якім цяпераka мясьцілася турма. Зрэшты, муроўку на цэлую яе вышыню – у некалькі чалавечых ростаў – размалявалі краявідамі гарадзкіх вуліц, па якіх ішлі месьцічы: цывільныя й паліцыянты, вайскоўцы і шпегі, прастытуткі і цнотніцы. У астатнім усё адпавядала траістаму лёзунгу, абвешчанаму на друзе славутае вязьніцы. "Роўнасьць. Воля. Братэрства". Ці, можа, у іншай пасьлядоўнасьці. Адным словам, помнік генэралу, які падараваў вольнасьць жыхарам, напаўняў назву сэнсам, разам сьведчачы аб вайсковай доблесьці і намякаючы на тое, што як толькі гараджане перастануць красьці, распусьнічаць і навучацца трымаць язык за зубамі, генэрал дазволіць разбурыць неўласьцівую пабудову на цэтлу.

А пакуль усё заставалася па-старому. Час нібыта застыў, як мроіва гарачага паветра над пляцам, і нічога тутака не адбывалася. Нічога вартага ўвагі ня тое што храніста, але звычайнага нават рэпарцёра малатыражнае газэткі, якая трымалася патаемнымі субсідыямі, пра што аднак здагадваліся чытачы, бо шмат папяровае плошчы займалася друкам прамоў і партрэтаў генэрала. Зрэшты, той не казаў сваіх прамоў штодня, і таму "Вольнае слова" мусіла паведамляць сваім чытачам таксама і пра тое, якія сёлета спадзяваньні на ўраджай, пільна сачыла за сустрэчамі на шахматным турніры ў Касабланцы, правакавала на сваіх бачынах дыскусіі пра цэны на гародніну, пра вэгетарыянства. Яно таксама акуратна адзначала кожнае пахаваньне і нарадзіны ды зьмяшчала шмат іншых навін. Гэта была газэта для народа.

Чалавек, перад якім ляжаў сьвежы асобнік "... слова", быў па-свойму знакаміты ў горадзе. Хоць паэтаў тут наогул не любілі, але ж яны не садзяць за столікам кожнае кавярні! А мужчына, пра якога мы кажам, якраз і быў паэтам. Апранаўся ён даволі невыразна, але зь нейкім нават выклікам, па якім можна было здагадацца, што гэта чалавек вольнай прафэсыі. У ягоных жылах тачылася, дарэчы, кроў з дамешкам нетутэйшай. Прапрадзед паэта быў асабістым барабаншчыкам каштал(я)на тае сумна вядомае Бастыліі, а трапіў сюды пры нейкіх скрутных абставінах ды запаліў сямейнае агнішча на гэтай неўрадлівай зямлі.

Ззаду помніка мясьціўся будынак музэю Перамогі з постацьцю Ніке ўзору італійскага майстра эпохі Адраджэньня. Лёгкая і нават лёткая багіня, здавалася, вось-вось ускрыліцца з фасаду, возьме генэрала за руку, яны ўздымуцца вышай, зробяць аблёт пляцу і, абмінаючы вежы ды шпіцы, ператворацца ў ледзьве заўважныя кропкі ў блакіце і зьнікнуць зусім за даляглядам. Камяніца музэю была паўнюткая зброі, штандараў і нават мела цэлыя шафы мундзіраў, захопленых генэралам у пераможанага ворага.

Праўда, гэткае шанаваньне ўсяго вайсковага давалася месьцічам крыху ў знакі, бо спараджала чуткі, якія жвавотна распаўсюджваліся замежнай прэсай і радыё. Самай ходкай была плётка пра тое, што ўсе месьцічы – гэта пахмурныя, непрыветныя людзі, якія любяць хадзіць у шыхце. Маўляў, палова зь іх – вайскоўцы! Але, калі быць шчырымі, дык няма чаму тут зьдзіўляцца. Нават

паэт меў чын яфрэйтара на выпадак вайсковых гульняў або заўсёды магчымай мабілізацыі.

Столік стаяў пад паветкай з паркалю, побач была дзежка з пальмаю, якую штораз выносілі з памяшканьня да сонца. За столікам, апроч ужо абмаляванага наведніка, сядзеў яшчэ адзін. То быў іхні пэрсанальны столік. Але ня толькі ён лучыў абодвух. Нечым яны былі падобныя. Паэт, не расьпешчаны выпадковымі заробкамі, і каміваяжор, расчараваны ў жыцьці. Хаця, калі разважыць, дык невялікае ліха, калі люд адмаўляецца купляць дарагія зінгераўскія машыны, нават калі іх дакляруюць у пазыку. Горш, калі ён адмаўляецца ад уласных паэтаў, а іхнія вершы не выклікаюць нічога, апроч позяху. Зрэшты, большасьць насельніцтва была наогул непісьменная: ручная праца не вымагае шмат веды.

Паміж імі звычайна зачыналася гутарка.

"Не-э, што ты. Адсюль я ніколі ня зьеду. Нават калі ўсё аперазаюць калючым дротам. Тут нарадзіўся. Тутака магілы маіх дзядоў. Тут і мне паміраць, на гэтай зямлі."

"Ужо й так з усіх бакоў дрот - цэлую мяжу задратавалі. Можна падумаць, нехта пішчом лезе, хоча дагэтуль дастацца... "Кітайскі" мур перапязаюць толькі ў адзін бок!"

"Ды кінь ты ўпадаць у скруху. Зьедзеш. Атрымаеш візу. Узьяднаньне семьяў і ўсё такое іншае. ам цяпер можна.

У цябе ж ёсьць там сваякі?

Табе пашанцавала, маеш другую бацькаўшчыну. А ў мяне толькі мова яшчэ адна ёсьць. Другая родная. І нічога, трываю. Вершы вось пішу, часам. Білінгвістычныя."

"Табе толькі б жартаваць. Нават і зь сябе кепікі строіш."

"Інакш можна звар'яцець. Ад усяго гэтага.

Хоць, паэзія, кажуць, у ж о вар'яцтва."

Да віна ўдала дадаваўся авечы сыр. А іх разам у сьпякотнае надвор'е добра дапаўняла кава, гатазаная на замову па-швархвальдзку: з сокам чарэшняў, разьліваная ў кубкі з колатым лёдам.

Не зважаючы на сваё незаможнае становішча, паэт дазваляў сабе часам выпіць на тэрасе кілішак-другі, а то й поўную бляшку кіслага або манастырскага віна. А кавовыя зярняты дык наогул стала купляў у краме каланіяльных тавараў. Але ня "мокка", зразумела, а толькі танную "арабіку". У горадзе літаратары наогул не маглі пахваліцца раскошай уласнага побыту, бо ня мелі дачыненьня да вытворчасьці матэрыяльных даброт. Але без кавы ніхто зь іх не абыходзіўся. Яна была своеасаблівым эліксірам творчасьці, нібыта пах яе распаўсюджваў наўкола нейкія флюіды, якія спараджалі ва ўяве чалавека, што гарбеў над аркушам паперы, малюнкі й вобразы.

Зрэшты, карысныя для сябе ўласьцівасьці надою яны вынайшлі ня самі. Яшчэ ў тысячным годзе нейкі арабскі асклепій апяваў каву ў мэдычным трактаце. А адзін досыць вядомы пісьменьнік, які ад празьмернага ўжываньня кавы ўрэшце рэшт сапсаваў сабе селязёнку, заўважыў наступнае: кава, поўнячы страўнік, разам аджыўляе ўсе вантробы, усю істоту. І думкі пачынаюць рух, як аддзелы "Вялікага Войска" на змагарным полі.

Камівояжор змрочна смактаў праз саломіну коблер з паляўнічай гарэлкай, якая перавяжала ў шклянцы, раз-пораз студзячы вантробы сэльтарскай вадой.

"Ня сёньня дык заўтра ў Лазане падпішуць пагадненьне. Свабода пераезду для ўсіх, на вечныя часы!"

"Сумняваюся."

"Які ж ты, аднак, браце, Тамаш-нявернік.

А можа ты дарэмна гэтак імкнесься туды? Разумееш, як табе

сказаць, сапраўдная літаратура – тая, што ёсьць цалкам плёнам уяўленьня пісьменьніка. Ну, каму, прыкладам, можа быць цікава, як мы з табой тутака седзімо й каштуем кіслае віно?"

"Ня ведаю."

"Ты хіба не баісься расчаравацца? Гэта страшна – расчаравацца. Пахаваць мару.

Можа, хай гэты край так і жыве ў тваім уяўленьні?..

Вядома, я тамака ня быў, як і ніхто з нас. Але, можа, няхай ён застанецца прыгожай райскай зямлёю?"

"Не хачу. Тады ня трэба нічога. Калі й там ня лепш."

Вернемся зараз да абмаляваньня ўсяго пляцу, бо ён уяўляў зь сябе даволі цікавы ўзор сярэднявечнага дойлідзтва, з захаваным збольшага ансамблем, што сёньня ня часта напаткаеш. Як ужо распавядалася, яго аздаблялі музэй і кляштар. А яшчэ пасярод бруку былі вымураваны вадаліў, у які аднак не падавалі ваду, бо яна выцякала з адпаведнага мейсца ў масянжовага амура, які нібыта раздумваў, у каго яму пацэліць стралой са свайго лука. У астатнім усё магло толькі цешыць сваім суладзьдзем: чырвонае цэглы ратуша з часоў позьняе готыкі, двухпавярховая аптэка, гандлёвыя рады, аўстэрыя, дом шляхецкай зборні, храм.

Храм. Колькі на ягоных шпіцах зьмянілася зорак, паўмесяцаў, крыжоў розных! Лепш, напэўна, ня ўзгадваць, каб ня блытацца. Ён і цяпер быў адчынены для ўсіх прагных слова божага ды адпачынку духовага. Але ахвотных, супраць спадзяванага, засталося няшмат. Нават давяральны надпіс над дзьвярыма "Бог у цябе верыць" ня надта вабіў людзей, што былі нібыта пакрыўджаныя на Бога за даўнейшыя марныя звароты свае ў малітвах. Але ж ён-ткі вярнуўся да іх і расчыніў дзьверы храма!

"Бог у цябе верыць. А ты ў яго? Ці вера твая была адпачатку няшчырая й нетрывалая? Ці ты зьнямогся ды разьняверыўся, калі табе дакляравалі кожнага разу іншага бога? А ты хацеў аднаго толькі свайго... Але вось нарэшце і ён – ідзі да яго, укленчы і папрасі спагады. Чаму ж ты ня йдзеш?!" – Ксёндз-пробашч згарнуў паперу зь няскончанай казаню, нагбом выпіў шклянку вады, узяў са стала малітоўнік і засьпяшаўся да бажніцы. Вось-вось мусілі паклікаць да імшы.

Паэт і камівааяжор раскланяліся зь ім.

Сумныя вочы, прыгорбленая постаць, мітусьлівая хада. Увесь ягоны выгляд сьведчыў: быць яму апошнім сьвятаром у пазбаўленым веры горадзе. Апошнім і самым няшчасным, бо тады ня будзе каму прычасьціць яго і прамовіць апошнюю малітву над магілай.

Люд пакрысе сьцякаўся да расчыненага храма. Штосьці запаволенае назіралася ў хадзе й паставах вернікаў. Гэта ўжо быў ня той люд, што даўней, як ня можа застацца ранейшым і аднойчы зьбэшчаны бог. Ручаінкі вернікаў нагадвалі паэту чароды авечак. "А калісьці ж іхнія продкі хадзілі на бой пад сьцягамі з выявай ядлоўца – наравістае расьліны, якая не прышчапляецца ў чужой глебе. Напэўна, меў рацыю той мудрэц, які аднойчы параўнаў жывога чалавека зь мёртвай глінай..."

"Тамака сёй-той зь іх пакаштуе манастырскага віна. – Падумалася камівааяжору, які таксама сачыў тых, чые сьпіны пагдынала прыйма храма. – Лепей за гэтую кісьліну. Хоць яно амаль бяз смаку ды мацунку. Хіба што колер густа-чырвоны, каб увасабляць крыстовую кроў".

Сапраўды, гатунак "Ізабэля", зь якога неваколныя сяляне атрымлівалі ў душыльнях сок для манастырскага віна, займаў частку тутэйшых вінаградн[illegible]аў. Але маса [illegible] была кволая, як і ня дужа багатае на [illegible] прамяньне лета. Вінаград ураджаў

дробны, і ягады не пасьпявалі як сьлед назапасіць цяпла і цукру. Віно зь іх утваралася кіслае. Нават з таго вінаграду, што спавіў лазой паўднёвы схіл гары "323 мэтры". І ўсё адно сяляне не пакідалі маэольнае працы, якое вымагала крыху экзатычная, як на тыя мясьціны, культура. Высокія тычыны вінаградных загонаў спатыкаліся на шляху цягніка, які курсаваў раз на тыдзень, адразу па пераезьдзе мяжы. Яны, гэтыя загоны, магнэсам прыцягвалі да шыбаў рэдкіх пасажыраў, што транзітам ехалі на поўнач.

Асаблівае захапленьне выклікала вінаградная гара. На самай яе патыліцы пільнавалі навакольле мураваныя вежы і сьцены жаночага кляштара, які пасьля ўцёкаў мнішак аддалі на сядзібу вайскоўцам. Ад таго часу вінаграднікі пачалі паступова сохнуць карэньнем і марнець. Самі вайскоўцы надта гэтым засмучаліся, бо былі патрыётамі і падабалі айчыннае віно ня горш ад заморскага.

"Ведаеш, мне не хацелася табе казаць. Але я ня веру, што мы з табой не адзінакроўныя."

"Не кажы глупства, я не жадаю тут заставацца."

"Памятаеш? -

"Тутэйшы край - мая Айчына.
З гарой кляшторнай пасярод,
Лазой спавітай да вяршыні...
Тут маё сэрца, мая муза.
Табе заўжды адданы буду,
Мой Народ."

Ян не назваў іх ні "А" ні "Б". А толькі - "тутэйшы край" і "мой народ".

"Зараз распавядзеш мне пра шлях з варагаў у грэкі, ці як яго?"

"Заўсёды будуць існаваць гарады, зь якіх цягнікі пачынаюць сваю дарогу й тыя, у якіх яе сканчаюць. Але ж гэтаксама застануцца й такія, праз каторыя пралягуць чыгуначныя рэйкі."

"Мне ўсё гэта ўжо вядома. - На скрыжаваньні з поўначы на поўдзень, з усходу на захад. - Хіба ня так?"

"Дзьве анэксіі, якія перажыў наш народ... Ды што там казаць. Калі бацька быў паэтам Захаду, а сын пісаў вершы на мове Ўсходу. Радкі з апошняга я толькі што прачытаў. Яны ўсё адно адчувалі, што яны - т у т э й ш ы я, незалежна ад таго, на якой мове пісалі."

"Пакінь свой запал да лепшага разу. Ты ж ведаеш, я нэафіт. Ня ўсе могуць быць закаханымі без узаемнасьці і пачувацца ад гэтага шчасьлівымі."

Сёньня яны не сказалі адзін аднаму ані слова. Дый навошта? Усё даўно сказана. А ў іхнім жыцьці нічога не адбывалася. Іх яшчэ жывіла хіба толькі кволае спадзяваньне. Камівояжора - на візу, паэта - на выхад кнігі, якая, ён меў надзею, прынамсі, выклікча сьлязу ў суайчыньнікаў. Болей, здавалася, ад жыцьця ім чакаць не было чаго. Праз некалькі гадзін на пляцы рассыплецца пошчак капытоў. Распачнецца штонядзельны цырыманіял вайсковага параду. А пакуль...

Трымелася няэвыкла сьпякотнае надвор'е. Нерухомае напаленае паветра па-над пляцам нібыта ўвасабляла марнасьць жыцьця і спробаў паўплываць на яго.

Час быццам застыў на мейсцы, як стрэлкі дэмгара - вежавага гадзіньніка, які забаранілі накручваць за гучны бой курантаў.

У вулічнай кавярні на пляцы Зруйнаваньня Бастыліі паэт і камівояжор пілі кіслае віно сваёй айчыны

# Барыс Пятровіч

ПУСТЭЛЬНЯ

(Са спробаў расшыфроўкі абрэвіятур)

Я ні разэчку ня быў у сапраўднай пустэльні. Але гэта зусім не перашкаджае мне ўявіць, што мы зараз брыдзем па пустэльні.

Сонца. Ну як жа безь яго! Пячэць. Ажно скура скварчыць і пакрываецца пухіркамі, як ад холаду.

Смага. Абавязкова. Што ж за пустэльня бяз смагі? Рот сьцягвае густая сьліна, якую ні пракаўтнуць, ні сплюнуць.

Стома. Ад сьпякоты, ад смагі і ад нядоўгага яшчэ, ды марнага ўжо шляху.

Розум. Толькі ён адзіная жыватворная сіла тут, у пустэльні, як ні кішчаць яго сонца, стома і смага. Ён вораг ім. Бо заклікае нас змагацца зь імі. Можа й ня варта выбівацца зь сілаў, пнуцца да нейкае недасяжнае мэты? - кажа ён. - Трэба проста працаваць на гэтай зямлі, каб здабыць тут ваду й пераўтварыць край. Некалі ж ён квітнеў!.. Інакш - сьмерць у бясконцых пясках.

Ды мы не прыслухоўваемся. Мы шмат чулі заклікаў і абяцанкаў, нас так часта палохалі, што мы й ня ведаем ужо, каму ды чаму верыць. Мы цягнемся наперад, ужо нат не ўсьведамляючы, што робім. Мы машыны. Мы робаты. Падымаемся на барханы, ссоўваемся наніз. Зноў падымаемся... Як Сізіф. Толькі замест каменю коцім наперад свае целы. Наперад? Хто сказаў наперад? А можа, назад? Можа, ўправа ці ўлева ці яшчэ ў нейкі бок? Мы даўно страцілі ўсе арыенціры. Нехта сказаў: ідзіце на сонца. І павеў. А сонца ж ходзіць па коле. Сонца ходзіць гэтак, як зручней яму, а ня нам. Зрэшты, й яму ўжо ня вырвацца з свайго кола... Так падказвае розум. І гэта ўсё яшчэ крамола. Хоць апошнім часам шмат што стала дазволенае. Учора над намі нават дожджык прайшоў. Кроплі да зямлі не даляталі, выпараліся высока ў небе, але дыхаць стала лягчэй...

Пясок напёкся, нібы патэльня, засмоктвае ногі, быццам багна, і абпальвае іх ледзь не да каленяў. Аднак мы пра гэта хутчэй здагадваемся, чымся адчуваем. Нашы пачуцьці забітыя сонцам, стомай ды смагай. Сонца... Дзіўна, як гэтай плямка можа даваць столькі пякучай, пакутлівай цеплыні. А гэта ж яно, сонца, зрабіла з нашага краю пустэльню.

Скура ў нас сухая нібы пэргамін. Пяшчынкі не прыліпаюць да яе. Пот, што быў напачатку, высах, а новаму няма з чаго ўзяцца. "Вады!.. Ва-ды-ы!.." - ірвецца з душаў. У вадзе нам выратаваньне. Яна расквеціць пустэльню. Мы ведаем, што такое вада, але яшчэ ні разу за ўвесь шлях не пакаштавалі яе... І бацькі нашыя не пілі яе, і дзяды яе смак запамяталі... Кажуць, Ма-

сей некалькі пакаленьняў свайго народу вадзіў па пустэльні, каб народ забыўся на рабства. Ад чаго ж адвучваюць нас? Куды вядуць?..

Мы зноў на вяршыні бархану. Бачыце, бачыце - возера! І ў ім плёхаюцца людзі. Не зьвярочвайце! Гэта падман, гэта міраж. Бо не бывае так, каб адразу цэлае возера. У нас не бывае. Гэта недзе далёка, у чужых краёх. А нам бы дабрысьці хоць да аазісу з маленькай крынічкай, а потым - да арыка, а тады, магчыма, і да возера...

Толькі куды ж мы йдзем: наперад, назад, убок, ці... гэта сонца зноў вядзе нас ізноў "наперад"... Смага зьядае нам мазгі, стома зьнясільвае душы... Сонца пасылае нам галюцынацыі. Мы пакутна-шчасьліва ўсьміхаемся і паўзем... наперад...

Я ніколі ня быў у сапраўднай пустэльні, але нішто не замінае мне ўверыцца, што я зараз у пустэльні. Бо вакол, як і там, пануюць Сонца, Смага, Стома і прыгнятаецца Розум... А вам, якіх мучаюць сьпякота, смага і стома... што вам яшчэ трэба, каб зразумець, што вы ў пустэльні без канца і краю, што шлях вам - па сонцу - шлях да пагібелі...

# Мроя

песьні

## КАСТРЫЧНІЦКІ ЦЯГНІК

У старым завэдзганым вагоне
Поўзаюць па сьценах павукі.
На падлозе ў прывідным сутоньні
Тоўстыя гуляюць пацукі.

    Кастрычніцкі цягнік,
    Цягні сябе, цягні!

Ляскае, грыміць цягнік іржавы,
Па цямрэчы восеньскай бяжыць.
Па гнілых паліцах скачуць жабы,
А па столі поўзаюць смаўжы.

    Кастрычніцкі цягнік...

Восень над вагонамі віруе,
Б'е у шыбы зморшчаным лістом.
Машыніст упэўнена кіруе,
Графік не парушыць ні за што.

    Кастрачніцкі цягнік...

## ГОРАД

Думкі закавалі ў асфальт
надзейна.
Думкі закавалі ў асфальт.
Слухайце кантаты сірэн -
балдзейце!
Слухайце кантаты сірэн.
Гвалт люмінісцэнтных залеў
так звыклы.
Гвалт люмінісцэнтных залеў.
Зьдзеклівыя твары вітрын -
як выклік.
Зьдзеклівыя твары вітрын.
Чэргі за чырвоным вінам:
Хто крайні?
Чэргі за чырвоным вінам.
Вас задавальняе жыцьцё?
Бог з вамі!

У сувязі са сьвятам 8 сакавіка рух транспарту
па Ленінскім праспэкце забаронены...

## ВАЙНА

Мы рушым на захад, мы крочым на ўсход -
Куды загадаюць нам.
Халодным паглядам сталёвых вачэй
У твары глядзіць вайна.

Ззаду - агонь, уперадзе - дым.
Абвугленая вясна.
Мы крочым няспынна, напрамак адзін,
Напрамак адзін - вайна.

Пануе над выпаленай зямлёй,
Цісьнецца ў думкі і сны
Халодны бязьлітасны механізм -
Тупая машына вайны.

Яна падначальвае нас сабе,
Душы нішчыць яна.
Наш боль, нашы роспач і жах - няўзнак -
Тут гаспадарыць вайна.

Паслухай, брат,
Мне б азірнуцца, убачыць знаёмыя вочы...
Я ведаю, брат,
Нам не вярнуцца з гэтае ночы.

Мне мая зброя рукі пячэ,
Я б кінуў же і пракляў,
Але ў жаўнера на кожнай вайне
Ёсьць абавязак страляць.

Ёсьць абавязак страляць у людзей,
І гэты закон не зьмяніць.
І ёсьць у нас права - права на сьмерць
У сьнезе, гразі ці ў агні.

Паслухай, брат...

## Я - РОК-МУЗЫКАНТ

Я не люблю шыкоўных баляў,
Я не прыхільнік эстэцтва,
Мне недаспадобы духоўны гандаль
І талент, які прадаецца.

Я не люблю салодкіх сьпеваў
І песень рэстаранных варыянт.
Я - з тых, хто не шкадуе свае нэрвы,
Я - рок-музыкант.

Я рок-музыкант старых традыцый.
Гэта не прызваньне, гэта пазыцыя.

Я супраць блакітных і залатых,
Я не выношу пустыя вочы.

Ведайце, я ня з тых,
Хто жыве па законах ночы.

Хай праўда заменіць паветра,
Гітара скрыгоча, як танк.
Я сабе застануся верны,
Я – рок-музыкант.

Я рок-музыкант старых традыцый...

Я не шукаю славы таннай,
Я пяю не для грошай.
Я хачу застацца салдатам,
Салдатам цяжкага року.

І нішто ўжо мяне ня зьменіць,
Думаць і граць буду толькі так!
Я хачу памерці на сцэне.
Я – рок-музыкант.

Я рок-музыкант старых традыцый...

БЕЛАЯ ВЕЖА

Белая вежа – мур перамог,
Край і пачатак вечных дарог.
Белая вежа, страты і боль,
Ты і ў бядзе засталася сабой.

Белая вежа – як запавет,
Даўніх вякоў незаглушаны шэпт.
Белая вежа, хай не настане
Дзень твайго скону і руйнаваньня.

Белая вежа – мур нашай веры,
Не пахіснуць цябе здрады і ветры.
Белая вежа, прэч стары боль!
Золак разгорне свой сьцяг над табой.

---

Прошу зьмясьціць у бліжэйшым выпуску "Літаратуры" наступнае. Артыкул "Практыкаваньне Ян-сінь" перакладзены мною з кітайскае мовы паводле часопіса "Джунхўа цігун", 1985, нум.1. Падзагаловак "Імправізацыя" ў арыгінале і адпаведна ў перакладзе адсутнічае.

Ваш Мікола Раманоўскі.

1989.11.10, Менск.

# Віктар Шніп

*   *   *

і разьлілося чырвонае чырвонае віно
па белым па белым па белым абрусе
і рассыпаліся на цэмэнтовую падлогу
медзякі медзякі медзякі медзякі
калі ўстаў ён і сказаў
даволі даволі да волі да волі
і выйшаў ён са скляпеньня
і ня ўбачыў у небе сонца
а толькі чорную чорную чорную прорву
і крыкнуў ён людзі людзі людзі
і ніхто яго не пачуў
і вярнуўся ён назад
але за яго сталом сядзелі
чэрці чэрці чэрці чэрці
і гулялі ў карты карты карты карты
і пілі яго чырвонае чырвонае віно
і белы абрус стаў чорны чорны
як жыцьцё і сьмерць як жыцьцё і сьмерць

*   *   *

Па горадзе ходзяць салдаты,
Па горадзе лётаюць чуткі.
Са сьцен пазіраюць плякаты,
Ля бараў - стаяць прастытуткі.
А людзі клянуць магазіны
І болей ня верацць уладам.
Хто кажа: "Ратуйце Айчыну" -
Таго аб'яўляюць вар'ятам.
Друкуюцца кнігі і грошы,
І кнігі і грошы - паперы.
З трыбун выступаюць прыгожа
Актыўныя пэнсыянэры.
Клянуць "нефармалаў", Пагоню,
Нібыта прысуд ім чытаюць.
І сталінскую карону,
Як сонца, у марах люляюць,
Каб дзень не здаваўся чарнюткім...
Але, як ні служаць плякаты,
Па горадзе лётаюць чуткі,
Па горадзе ходзяць салдаты.

*   *   *

Над дахамі чарнюткімі дамоў
Лятае птушка белая, крычыць.
Стаіць царква бяз крыжа, без званоў,
Але з замком і ад замка ключы

Павешаны на паржавелы цьвік
Вартаўніком, які ў турме даўно
Нясе свой крыж за доўгі свой язык
І сьніць жанчын гарачых і віно.
А птушка белая ляціць і сее страх,
Ад страху аж шавеляцца кусты
На цёмных, як той сьвет, глухіх дварах.
І ты сядзіш, як выгнаны манах,
Які вярнуцца хоча ў манастыр.
А птушка лётае і ўсё крычыць,
А людзі сьпяць, набіўшы жываты.
І на цьвіку царкоўныя ключы
Вісяць у царстве сну і нематы.

ВЕРБНАЯ НЯДЗЕЛЯ

на пляцы ля царквы
сярод моладзі і старых
сярод пучкоў маладой вярбы
упрыгожанай папяровымі кветкамі
міліцыянт пазглядае на гадзіньнік
відаць чакае сабе замену
у царкве ідзе служба
усе зьвяртаюць увагу на міліцыянта
і кожны думае пра сваё
і мы стаім у неспакойным натоўпе
з пучкамі вярбы купленай за 30 капеек
нам хочацца зайсьці ў царкву
але мы стаім у натоўпе
ты ў джынсах
а я з камсамольскім значком
міліцыянт паглядае на гадзіньнік
старыя паглядаюць на нас
а ў царкве ідзе служба

ПЛОТ

стаўлю плот вакол сядзібы
не таму што хачу адгарадзіцца
хачу каб усё было як у людзей
але амаль кожны хто праходзіць побач
глядзіць на мяне як на ворага
ці сьмяецца з маёй работы
ці разносіць плёткі па ўсім навакольлі
ці скардзіцца на мяне мясцовым уладам
і я не вытрымліваю такога іспыту
ламаю новы прыгожы плот
але амаль кожны хто праходзіць побач
глядзіць на мяне як на ворага
ці сьмяецца з маёй работы
ці разносіць плёткі па ўсім навакольлі
ці скардзіцца на мяне мясцовым уладам

## ВЕЖА

іду па рыпучай лесьвіцы
у белай-бялюткай вежы
наперадзе ў мяне цені
і ззаду ў мяне цені
паветра ў вежы як вада
у старым забытым калодзежы
пахне зямлёй і сьмерцю
з кожным крокам я ўсё вышэй
над сваім былым
над самім сабой
у вокнах іржавыя краты
на кратах крыўская Пагоня
а я ўсё вышэй і вышэй
іду па рыпучай лесьвіцы
а ў вокнах іржавыя краты
а на кратах крыўская Пагоня
я чую як лятуць стрэлы
я чую як зьвіняць мячы
я чую за сабой крокі
і ёсьць каму бараніць вежу
і ёсьць за што бараніць
але на вежы няма сьцяга
і ў мяне ў руках няма сьцяга
але я чую за сабой крокі

* * *

чорныя чорныя чорныя птушкі
белыя белыя белыя косьці
чырвоная чырвоная чырвоная вада
чарапы чарапы чарапы
вецер вецер вецер
пыл чырвоны чырвоны чырвоны
зьдзічэлы конь ідзе да вады
сытыя ваўкі не зьвяртаюць увагі
не зьвяртаюць увагі не зьвяртаюць увагі
галодны абадраны манах
ідзе і глядзіць у неба
і ня бачыць чорных чорных чорных птушак
ён бачыць Бога
зьдзічэлы конь п'е ваду
і ня бачыць што вада чырвоная
вада чырвоная вада чырвоная
і ў чэрапе князя і ў чэрапе князя
зьвіў жаўрук гняздо гняздо гняздо
і ў чэрапе здрадніка і ў чэрапе здрадніка
пасялілася жаба жаба жаба
і толькі ў чэрапе воя пуста
Пуста Пуста Пуста Пуста Пуста

# Уладзімір Сьцяпан

## "Я – ВІЦЯ"

Сваё імя, прозьвішча, назву вуліцы і шмат іншых, нават даволі складаных словаў Віця вымаўляе амаль добра. Слова "алігафрэн" яму нічога не гаворыць.

Двухпакаёўка на першым паверсе, у якой Віця жыве з бацькамі, выходзіць вокнамі на поўдзень. Але кватэра цёмная, бо амаль усутыч да вокнаў – шэрая, складзеная з бетонных квадратаў сьцяна кааператыўнага дома. Панурасьць і аднастайнасьць сьцяны парушае вузкая шыльда з назвай вуліцы "Другая Авангардная". Белыя друкаваныя літары добра глядзяцца на ярка-сіняй эмалевай паверхні.

Сьцяна кааператыўнага дома закрывае амаль увесь краявід. Толькі, калі наблізіцца да вакна, бачны невялікі кавалак вуліцы і кантэйнеры са сьмецьцем. На брудных кантэйнерах дзяжураць нахабна-палахлівыя памыйныя каты.

Але Віцю дастаткова й гэтага аскетычнага краявіду. Ён нерухома і стоена сядзіць ля падваконьня і пазірае то на сьцяну з шыльдай, то на аблезлыя іржавыя кантэйнеры, то на хіжых катоў, якія нетаропка прагульваюцца вакол сьметніка.

Есьць дзіўны момант, які выклікае найбольшую цікаўнасьць, – гэта надыход шэрай гадзіны. Віця бачыць у шкле вуліцу эь цёмнай стромай сьцяны, адбітак пакою й сябе самога. Адлюстраваньне і краявід накладваюцца ў шкле адно на адно суіснуюць у адным вымярэньні – у плоскасьці шкла. Віця адыходзіць ад вакна на некалькі крокаў і нерухомее. Блакітныя, як у лялькі, вочы раз-пораз пакрываюцца доўгімі веямі. На твары разгубленасць...

Калі знадворку цямнее, маці запальвае сьвятло. Шкло адлюстроўвае да драбніцы знаёмы інтэр'ер пакою і маўклівую, засяроджаную постаць трыццацігадовага Віці.

Засынае ён хутка – ледзь дакранаецца няголенай шчакой да падушкі. Сон у яго моцны і глыбокі. У сьне на твары зьяўляецца спакой і задуменнасьць. Віця ня чуе, як заходзіць маці, як яна папраўляе коўдру, колькі часу глядзіць на сына, прыбірае рэчы, гасіць сьвятло і прычыняе дзьверы.

Шторы і фортка ніколі не зачыняюцца.

Прачынаецца Віця ў адзін і той жа час і адразу пачынае галіцца. Электрабрытва натужна гудзе, калі ён водзіць ёю па падбародзьдзі, шчоках і шыі. Шчэць, што адрастае за суткі, густая і жорсткая. Пасьля таго, як твар робіцца гладкі, а брытва гарачая, Віця з апетытам сьнедае й займае мейсца ля вакна.

Па вуліцы паўз клятчастую сьцяну сьпяшаюцца ў школу дзеці. Віця прыціскаецца высокім ілбом да шкла і ўзмахамі рук вітае іх. Дзеці сьмяюцца, круцяць ля скроні пальцам, паказваюць языкі й заварочваюць за рог дома. Віця сьціскае правы кулак, а левым грукае па падваконьні.

Пасьля таго як падлеткі імклівымі купкамі хаваюцца за домам, Віця супакойваецца й выбіраецца на вуліцу. У мястэчку яго ведаюць усе, бо ён кожнаму дае "добры дзень". Калі яму адказ-

ваюць, ён звычайна спыняецца, выцягвае з кішэні розную драбязу і хваліцца.

Бывае хто-небудзь кідае яму ў адказ: "Дэбіл" - і прысьпешвае хаду. Віця даганяе яго, заступае дарогу, глядзіць крыху вінавата ў вочы і кажа: "Я - Віця", пасьля чаго працягвае свой рэйд па пыльных вуліцах ранішняга мястэчка.

Здаля Віця выдае на моцнага мужчыну, гадоў на сорак, ня надта спрытнага, але дужага й спакойнага. Ён з задавальненьнем дапамагае рабочым прыбіраць кантэйнеры са сьмецьцем. Сьмела, без рукавіц, хапае брудныя заплямленыя памыямі скрыні і перадае ў кодаб машыны. Мужчыны яго не праганяюць, бо Віця для іх - свой чалавек, дармовая дапамога. На сьметніках і ў кантэйнерах Віця і знаходзіць рэчы, якія нясе дахаты. Гэтыя знаходкі звычайна кісла і цяжка смуродзяць. Пах сьметнікаў характэрны ня толькі для Віці, але і для ягонага пакою. Паветра ў кватэры, хоць фортка ўвесь дзень адчыненая, густое і цяжкае. Раней на Віцю сварыліся, але пазбавіць заганнай звычкі не змаглі...

Віцю шанцуе - ён знаходзіць вялікі акварыюм і адразу кідае працу, надзявае акварыюм на галаву й сьпяшаецца дахаты.

Віця шыбуе праз усё мястэчка. Ягоная галава ў шкляной скрыні скульптурная і значная. Кучаравыя валасы прыліплі да высокага ілба, з твару зьнікла звычайная млявасьць.

Віця крочыць сярэдзінай вуліцы і ўчэпіста трымае за жалезныя канты цяжкі акварыюм. Ён сьпяшаецца й ня чуе, што кажуць праходжыя яму ўсьлед.

Акварыюм амаль цалкам займае стол ля вакна.

Віця доўга цягае слоікам ваду і супакойваецца, калі акварыюм робіцца ўкрай поўны.

Акварыюм бацькі не выкідаюць, бо занадта ён вялікі і цяжкі, дый Віця не адыходзіць ад яго.

Ужо некалькі дзён у акварыюме плавае даволі ладны карась, якога Віця ўратоўвае ад чорнай траскучай патэльні. Карась млява варушыць плаўнікамі, а Віця зачаравана цікуе за павольнымі рукамі залацістай рыбіны, за бліцамі, што ўспыхваюць на яе баках.

Дні праходзяць у маўклівым сузіраньні шкляной скрыні. Віця крышыць у ваду хлеб і пазірае, як рыбіна павольна ўздымаецца да паверхні й ляніва хапае яго. Карась то тыцкаецца ў пясок, і на дне застаюцца мяккія хвалістыя барозны, то абыякава вісіць у зеленаватай тоўшчы вады і не зважае на хлеб, што разьмяклымі сьняжынкамі ападае на дно.

Карась спыняецца ля шкляной сьцяны й нерухомее. Віця ўпіраецца падбародзьдзем у стол, і позірк ягоны спыняецца на круглых вачах рыбіны. Карасю надакучвае нерухомасьць і ён імкліва зрываецца зь месца. Вада робіцца каламутная, і мільгаюць павялічаныя шклом: то пукатая галава, то цьмянае золата лускі, то рукавы плаўнік, то цёмны веер хваста...

- Стой! Стой! - просіць Віця, але рыба, захоплена сваім танцам, ня чуе яго.

Раптоўна карась спыняецца каля дна, а Віцю ахоплівае жах, што ягоная рыба зьнікла.

Ён апускае ў акварыюм рукі з тоўстымі растапыранымі пальцамі й абмацоўвае ваду. Карась спалохана б'ецца ў далоні, гадскоквае над паверхняю. Віця супакойваецца, выцягвае рукі і расплёхвае цёплую ваду на падлогу, і мокрымі рукамі пачынае крышыць хлеб.

- Рыба. У мяне рыба! - кажа Віця й радасна, крыху разгубле-

на сьмяецца. - Я маю рыбу! - хваліцца ён дзецям, што зь цікаўнасьцю глядзяць на акно.

Віцю здаецца, што словы не пераконваюць, і тады ён апускае рукі ў акварыюм, ловіць карася, моцна сьціскае яго і, узбуджаны, падымае над галавой. Малыя бачаць толькі вялікую галаву з адкрытым ротам і хвост, які сутаргава тропаецца ды млява павісае. Кроплі бягуць па шкле й пакідаюць празрысты сьлед.

- Вялікая! Карась! - дзеці, задаволеныя выглядам рыбы, бягуць у суседні дом.

- Карасік, - ціха гаворыць Віця і асьцярожна кладзе рыбу ў ваду.

Карась апускаецца на дно, павольна перакульваецца на сьпіну і ўсплывае.

Віця пальцам штуркае яго ў глыбіню, але карась упарта ўсплывае да паверхні, ледзь бачна падрыгвае плаўнікамі.

Віця не адыходзіць ад акварыюма. Ён крышыць у ваду хлеб, трымае рыбіну ў глыбіні, падсоўвае ёй мокрыя крошкі... Карась пераварочваецца й ляжыць на паверхні.

Пад вечар рыбіна цьвярдзее, золата лускі блякне, бакі надзімаюцца. Яна як драўляная ляжыць на вадзе...

- Тсс! - шэпча Віця і прыкладае палец да вуснаў. - Карасік сьпіць. Ён заснуў.

Маці глядзіць на сына, ківае галавой і выходзіць з пакою.

Віця распранаецца й кладзецца ў ложак.

Уначы маці выцягвае з акварыюма рыбу, якая пачала сьмярдзець, і праз фортку выкідае яе ў бок сьметніка. У цемры чуюцца хіжыя крыкі катоў і злоснае каўканьне.

Віця прачынаецца як ніколі рана. На вуліцы шчыльны шэры туман. Відаць толькі край сьцяны і вузкую сінюю шыльду. Акварыюм пусты. Віця будзіць бацькоў і паўтарае толькі адно слова: "Рыба? Ры-ба?" Бацькі палохаюцца, пачынаюць тлумачыць, што карась памёр, і абяцаюць купіць новага.

Віця ведае шмат розных, нават даволі складаных словаў - і цяпер, перад кубам зь зеленкаватай вадой ён паўтарае кароткае слова "памёр" і намагаецца зразумець ягоны сэнс.

# АДАМ ГЛОБУС

## СЬМЕРЦЬ - МУЖЧЫНА

Що то за могила?
Вітер сніг розміта,
Крізь сніг почорніла
Трава вигляда.
Мікола Кастамараў.

### 1 - ПОЖНІ

Сьмерць - мужчына, а не жанчына. Нязвыкла, але сьмерць - ён, а не яна, як мяркуе тутэйшая большасьць. Усе выявы з жанчынамі, што размахваюць косамі - падман недасьведчаных. Сьмерць - мужчына!

Першы раз я бачыў Яго, калі быў яшчэ падлеткам.

На гарадзкім ускрайку была вялікая гара, цяпер там мікраранён Вясьнянка, а раней высілася крутая, як бычыная сьпіна, гара, расло жыта. Пад гарою цяпер фінская (кажуць - фіны будавалі) аўтазапраўка, толькі тады й яе не было. Вечарэла па-летняму доўга, я ішоў з эцюднікам на плячы, вяртаўся з рэчкі. У руках нес невялікае палатно, на ім сьвежы, маляваны алеем краявід - вербы над ціхай вадою. Да эцюда прыляпіўся матылёк.

У кожнага свае забабоны. Мне дык за шчасьлівую прыкмету матылёк, камар ці казюрка, якія садзіліся на эцюд. Выратаваць нельга, фарба ліпкая, таму забабон супакойваў. Зразумела, што мяне, а не матыля.

Нес я краявід з нахіленымі да вады вербамі і апынуўся якраз у тым самым мейсцы, дзе цяпер працуе бензазапраўка. Там і ўбачыў мужчыну. Ён шыбаваў гарою, па пожні, напрасткі, касу ён трымаў на плячы. Я прыпыніўся. Мужчына хутка спускаўся з гары. А я ўсё стаяў, бо мне здавалася - падыйдзе ён зараз да мяне і ўдарыць касою ў грудзі, размахнецца шырока і ўваб'е касу ў цела. А ён спытаў: "Мастак?" "Мастак", - адказаў я і пачырванеў. Дагэтуль не люблю й саромеюся сваіх заняткаў. Мастак, касец, паэт... Якая розьніца? "А мяне зможаш намаляваць?" "Змагу". "Зрабі ласку". "Сьцямнее хутка". Сонца ўжо хавалася за гарою. "А я й не кажу, каб вось абавязкова зараз. Прыйдзеш дадому й намалюеш. Вось так з касою стаю на пожні. Фрэнч, боты, кепка. Галоўнае, што ты зробіш мой партрэт". "Зраблю абавязкова", - сказаў я і зрабіў.

Прыйшоў дадому, замацаваў палатно на мальбэрце. (Як гэта мае бацькі толькі трывалі пах алею і шкіпінару ў кватэры?) Сашкроб масьцекінам эцюд з матылём і пачаў "Касца на пожні". Выйшла цёмная змрочная карцінка - бурачкова-ліловая з рудымі палымянасьцямі. Напэўна, у мяне тады было занадта многа крапляку і вохры. А ў выніку карціны не атрымалася, бо занадта моцна ў нейкі важны момант я пашкадаваў, што зьнішчыў празрыста-зеленкаваты эцюд зь вербамі і матыльком.

* * *

Сьмерць мяне сапраўды вабіць, і ўсё зьнітаванае зь ёй так-сама. А ідзе гэта праз тое, што нарадзіўся, рос дый цяпер жыву каля самых могілак. Лёс такі. І куды б ні прыехаў, мяне проста цягне наведаць пагост. Хто? Дук? Д'ябал? Хутчэй, не. Занадта гучна, як бубённыя заклікі. Прасьцей: люблю водар прывялых кветак над капцамі, люблю густую вільгаць, што тоіцца ў кус-тоўі за крыжамі й помнікамі, люблю й жалобныя радкі: "Я ўжо дома, а ты яшчэ ў гасьцях", "Спыніся, пастой, падумай", "Веч-ны спакой", "Вечны спачын"... І люблю пагостаўскі ансамбль зь дзяцінства. З таго далёкага часу, калі па абедзе баба Ядзя спачатку ўкладала мяне спаць, а потым раптам будзіла, і мы йшлі глядзець, як нашай вуліцаю нясуць нябожчыка. Спаць, калі некага хаваюць, нельга.

І ніколі не разумеў я людзей, што захапляюцца асобамі зь гераічнай сьмерцю, бо ўсе гераічныя ўчынкі менш драматычныя за сьмерць селяніна.

Вось узьнялі труну на машыну. Вось паселі сыны й дочкі ня-божчыка паўз яе на сьветлыя лавы. Завуркатаў, пакаціўся грузa-вік, павольна, па цэнтральнай вуліцы, празь мястэчка Койдана-ва. За ім рушылі людзі - жанчыны ў чорных хустках, мужчыны з кепкамі ў руках, дзеці з кветкамі. Сьлёзы. Белыя насоўкі. Сьлёзы журботныя, а не патрыятычныя. Людзкія сьлёзы з-пад цяж-кіх ад бяссоннае ночы павекаў.

А патрыятычныя самаахвяраваньні - гідкія.

Так здарылася, што дом наш стаяў на вуліцы ажно зь дзьвюма могілкамі - Старымі паўзакінутымі й Новымі паўпустымі. Вось і атрымліваецца - нарадзіўся я паміж пагостамі. А на паралель-най вуліцы, калі праз сады прайсьці, быў яшчэ і Бесхайм (так у нас габрэйскія могілкі называлі). І на ўсіх трох за маёй па-мяцьцю хавалі. Цяпер хаваюць толькі на Новых. Бесхайм зьнесь-лі, забудавалі, нават і сьледу не пакінулі. Дый якія ў Койда-наве габрэі? Так, два-тры вярнуліся пасьля вайны і тыя рускімі пазапісваліся. Старыя могілкі спачатку зьнесьлі напалову, а пазьней і астатнія капцы зраўнялі зь зямлёю. Гэта нейкая дур-ная справа коціцца па Беларусі - могілкі зносіць. Зь якога боку яе да нас прынесла? Спачатку - маёнткі, палацы й замкі паруйнавалі; потым - касьцёлы, цэрквы й сінагогі зь мячэтамі папалілі; цяпер - пагосты. А далей што? Пытаньне мне спакою не дае, як тое відовішча растрыбушанага могільніка ў Менску, каля Сьвіслачы. Як пачалі дарогу да гатэля "Беларусь" пракладаць, дык бульдозеры насып пад асфальт рабілі. Пасьля моцнага дажджу той насып зьбялеў ад чалавечых костак - чарапы, скабы, крыбет-нікі тырчалі з чырвонае гліны, як перад Страшным судом. А пратэктары грэйдараў трамбавалі й трамбавалі насып...

* * *

А другі раз я ўбачыў касца праз пыльнае аўтобуснае вакно. Ужо працавала новенькая запраўка, і да яе вырульвалі жаўтапы-сыя таксоўкі. Аўтобус загамаваў на павароце, дарога абмінала гару, і я ўбачыў, як Ён ідзе па пожні, каса на плячы зіхаціць да рэзі ўваччу. Падумалася, вось так ідзе Сьмерць шорсткаю колкаю пожняю, басанож і ня ступіш. У сваіх далейшых развагах я не імкнуўся пераконваць некага, як зазвычай бяруцца давесьці праўду ўяўнаму начальніку. Сам адчуў і сам пераканаўся, уба-чыў і паверыў. Сьмерць - мужчына з касою на плячы. Я бачыў Сьмерць. Ён ішоў гарою па пожні.

## 2 - РАБАЎНІКІ

Чамусьці Сьмерць уяўляецца бяз носа, а ў мужчыны з касою быў доўгі крашчаваты нос, рыктык у майго дзядзькі Анатоля. Таго самага Толіка, зь якім мы патрапілі ў малапрыемную гісторыю каля Старых могілак.

Вярталіся з клюбу, у кіно хадзілі. Зіма, цёмна, галалёд, паўз дарогі гурбіліся ледзяныя глыжы. Толік, ён толькі па сваяцку дзядзькам даводзіцца, а так - на два гады старэйшы за мяне. Яму тады трынаццаць споўнілася, хлопчык. І росту ён не высокага, роўны са мною быў, толькі што крапчэйшы. Ішлі па нашай Другой-Ленінскай, яна праз усё мястэчка вядзе, пяць кілямэтраў. Чуем, аўтобус нас даганяе. Вуліца простая - далёка відаць. "Давай, - кажу, - ледзяшом па аўтобусе шпурлянем". "Шафёр зловіць". Толік збаяўся. "Нават і ня спыніцца, вось пабачыш". "Кідай, калі хочаш, а я ня буду".

Аўтобус тады хадзіў кароткі, такія цяпер хіба што ў менскіх пахавальных бюро засталіся. Іх прыстасавалі нябожчыкаў вазіць.

Параўняўся аўтобус з намі, я ледзяшом у дзьверы.

Дурны, хабёльскі жарт. Такіх у мястэчку шмат. Дзе-небудзь на высокім адхоне порткі спусьціць і голую дупу паказваць цягніку. Ці на рэчцы ў чорны глей выпацкацца і зьнянацку з кустоўя на дзевак выскачыць - маўляў, чорт. Ці загарнуцца ў прасьціну і з касою ў руках якую парачку, што з танцаў вяртаецца, каля могілак пераняць, было й такое...

Ну вось і тады, ледзяны глыж гучна гагахнуў аб намерзлыя дзьверы. Аўтобус, хто ж яго ведаў, загамаваў, ажно юзам пайшоў - галалёд. Ня стаў я чакаць пакуль людзі павыскокваюць,вучаны-перавучаны быў. Па калена ў сьнег праваліваўся, поўныя чаравікі набраў, але пасьпеў забегчы на Старыя могілкі і схавацца за плотам. Ведаў, не пабяжыць шафёр са сьвятла ў цемру паміж крыжоў падшыванца шукаць, збаіцца ці палянуецца. Тады быў упэўнены, што збаіцца. Ён і не пабег, выскачыў і нагою па Толікавым задзе ўлупіў. У майго невінаватага дзядзькі ажно шапка ў сьнег паляцела. А сам ён на лёд упаў і заенчыў: "Гэта ня я кідаў..." Я далей услухоўвацца ня стаў, гайсануў праз могілкі, між крыжоў і помнікаў, ломячы перамерзлыя стамбуры кветак, між кустоў і дрэваў, на паралельную вуліцу, па ёй, потым праз сады і дадому.

Толікава баба Маня да маёй бабы Ядзі сварыцца прыходзіла, распавядала, што з-за мяне шафёр яе ўнука біў. "Ён жа старэйшы, трэба было глядзець за малым". Сапраўды, трэба было бегчы за мною на могілкі. Скончылася нічым. А чым, зрэшты, магло скончыцца? Ну, сьцёбнула б мяне баба колькі разоў пасам ці ў кіно з тым жа Толікам не пусьціла б, і ўсяго бяды.

* * *

Вось Зьмітрыка Латыша родны бацька лупцаваў, дык ужо лупцаваў, як мог. І было за што. Адкуль тое ў нашае Койданава прыпаўзло прысунулася ня ведаю, толькі пайшла мода на крыжы, хто болы назьбірае. А дзе ты іх зьбярэш? На дрэвах у садзе яны не растуць. Ну і пачалося марадзёрства, інакш ня скажаш. Латышава хата стаяла пад бярозамі якраз насупраць Старых могілак, на вуліцы Другой-Ленінскай.

Ну й назва, дагэтуль дзіўлюся. Нашто ў адным мястэчку дзьве асноўныя вуліцы аднолькава называць, а потым да іх рабіць нумарацыю? Дый самое Койданава пераназвалі ў 30-я гады

крывасмока, як нядаўна пісалі ў латыскім выданьні "Авотс", Дзяржынскага.

Зьмітрык усе помнікі ведаў, як дрэвы ў сваім садзе. Дзе на якім крыжы мэталёвы Хрыстос прышрубаваны, дзе рэльефчык Боскае Маткі вісіць, дзе анёлы крылы згарнулі й сумуюць. Вось ён і паздымаў сабе колькі ўкрыжаваньняў, ды прыхаваў на гарышчы, а бацька знайшоў. Зьбіў ён Зьмітрыка ды яшчэ прымусіў сярод белага дня тых Хрыстоў на мейсца прышрубаваць. Можа яно і слушна, што прымусіў, але біць так моцна ня трэба было. Зьмітрык на рэчцы сінякі паказваў, плечы і дупа ўшчэнт чорныя.

А Толікава баба Маня, ёй што ні зрабі - усё ня так, казала, што мала білі, што Божачка яшчэ ня так пакарае, праз такое рукі паадсыхаюць і паадвальваюцца. І мне ўяўлялася ўсохлая рука расейскага жывапісца эмігранта Рэпіна. Усе школьныя падручнікі тае пары ягонымі карцінамі былі нафаршаваныя, як калдуны мясам. Можа, думалася, і ён у дзяцінстве з могілак краў, праз гэта і рука ўсохла, а зусім не з-за таго, што маляваў шмат бурлакоў ды ўрадаў.

А Зьмітрыкавы рукі ня ўсохлі, і цяпер працуюць на маторным заводзе. І можа, па вялікім рахунку, дарма бацька яго зьбіў на горкі яблык, бо і помнікі, і Хрыстоў, і Божых Матак пыхлівыя бульдозеры на край пагосту, да самае дарогі ссунулі, экскаватары пагрузілі на самазвалы, а тыя зьвезьлі немаведама куды.

* * *

І яшчэ аднаго рабаўніка могілак я ведаў, Сямёна Неахайнага Чалавека. Сустракаюцца людзі недаглэджаныя, але каб такі, у яго ў кутках рота сьліна закісала... Ногі ён мыў толькі пад прымусам, шкарпэтак не ўскладаў, хадзіў у гумовых ботах, у якіх гразь ажно вішчэла. А зьвёў мяне лёс з тым Сямёнам у адну гісторыка-дасьледчую экспэдыцыю, я па дамове працаваў у археолага Вадзіма. Ён - пэдант, акуратны й сабраны па-вайсковаму. Кожнае лета ў экспэдыцыі, вось і прызвычаіўся да паходнага аскетызму й чысьціні. А тут Сямёна ўзяў за памочніка, "зьбегай, прынясі". У горадзе за ім, пэўна, маці глядзела, дык здавалася і зграбны быў, а тут за два дні ў такую "Разэлю" ператварыўся, глядзець брыдка. Трываў Вадзім, трываў дый ня вытрываў.

А ўсчалося ўсё зь вядра вады. Паслалі Сямёна па ваду, калодзеж далекавата, але з вакна відаць. Седзімо за сталом, сьнедаем і глядзім, як наш "Разэля" па ваду йдзе марудна, што мокрае гарыць. Тады чамусьці падумалася: "Чаму гэта кажуць, што калі жыд ваду ў хату носіць, дык і шчасьце прынясе?" Дайшоў, набраў, палову выліў (Цяжка яму поўнае прынесьці?), цягне, праз кожныя дзесяць крокаў спыняецца, руку мяняе. Напаўдарозе паставіў вядро, нахіліўся, рукі ў ваду апусьціў - Вадзіма ажно паставіла за сталом - Сямён твар пачаў паласкаць. Так мыцца колам не загоніш, а тут раптам сам. Памыўся, папіў зь вядра і нясе ў двор. Вадзім у дзьверы, сустракаць. "Вада чыстая?" - чужым голасам да Сямёна. "Піць можна?" "Можна". За тое "можна" загарэлася Сямёнава вуха ад вадзімавага кулака. "Што? Што? Што?" - паўтараў пабіты і плакаў. Але Вадзім не супакоіўся, ускочыў у хату, схапіў Сямёнаў заплечнік і пачаў выцягваць зь яго брудныя кашулі. "Пакуль не памыеш, каб я цябе ня бачыў!" І раптам па падлозе зазьвінела, забразгатала, зацэнькала... "Не чапай!" - заскавытаў Сямён і кінуўся зьбіраць мэталёвыя нацельныя крыжыкі.

На паўночна-заходняй Беларусі (Браслаўшчына, Мёршчына, Друя) ёсьць традыцыя прыбіваць да помнікаў нагрудны крыжык нябожчыка.

Вось такіх крыжыкаў і назьдзіраў Сямён, у заплечніку іх можа са сто хавалася. "Ну ты й гад, брыда дзвюхногая. Але ж я цябе біць ня буду. Вяскоўцам скажу, што ты крыжы з могілак пакраў. Хай яны й думаюць, што з табой рабіць. Хай яны цябе і б'юць. Хай хоць заб'юць, не ўступлюся. Мне сюды езьдзіць і езьдзіць... А ты... (расейскі мат). Каго я прывез? Ну, краў ты на раскопе чарапкі ды зубы розныя, гэта ладна, я ж думаў, гісторыя цябе цікавіць. А тут... (расейскі мат). Прыдушыць цябе трэба". Вадзім закурыў беламорыну. "Зьбірайся, і ў Друю па білет да сталіцы нашае Радзімы горада-героя Менска. Бачыць цябе не магу. Куды крыжы ў заплечнік сунеш? На стол кладзі, злодзей... (мат). І лічы, што ты ў нас не працаваў. Ясна? Ні капейкі не атрымаеш".

Нараніцу Сямён зьехаў. Зьняў маністу нашае рыбы, што сушылася на вакне, і зьехаў. Вадзім аднес крыжыкі мясцоваму настаўніку і той можа гадзіны са дзьве пастукваў на пагосьце маленькім малаточкам. Калі які крыж і пераблытаў, ня там прымацаваў, дык, спадзяюся, нічога страшнага. А ў нас пасьля сямёнавага ад'езду ў сенцах пачало сікунамі сьмярдзець. Потым здагадаліся, што "Разэля" баяўся ўночы выйсьці на двор, пэўна, думаў - вяскоўцы пільнуюць, вось і памачыўся ў вядро пад рукамыйнікам.

* * *

Ёсьць і яшчэ адна завядзёнка ў тутэйшых краёх - пакідаць на капцы пад крыжам пачастунак: чарку гарэлкі, лусту хлеба, яблык, цукерку, яйка варанае. Вось прыйдуць госьці на сьвята ці на дзень нараджэньня да нябожчыка, пасядзяць, пап'юць, пагавораць, паўспамінаюць і яму пакінуць гасьцінец, нібыта і ён зь імі разам, тут побач, недалёка. І сыходзяць з патаемнаю думкай, што нябожчык устане і перакуліць чарку і закусіць хлебам.

І нейкая жанчына ўголас скажа: "Што ж ты нашаму бацьку няпоўную наліў. Ён жа любіў поўненькую чарку, каб ажно зь берагамі".

Усе ведаюць, што ня ўстане, але спадзяваньне ёсьць. Яно глыбока, на самым сподзе душы. Яно прарастае праз стагодзьдзі. Мы памрэм, а яно застанецца. Дык якая ж тады абраза на зямлю тыя чаркі куляць і таптаць хлеб!

А былі ў нашым Койданаве й такія звоскі. Прыводзяць на пагост аўчарак і самі сьвішчуць у два пальцы. Сабакам што? Гойсаюць сабе па капцах, скачуць праз агароджы, дзе пакіхай, чаркі перакульваюць, кветкі ломяць, вянкі керзаюць, яйкі ды цукеркі ядуць, а хлеб топчуць. Сабакі, яны сабакі і ёсьць, неразумныя стварэньні пры чалавеку. А гэтыя чалавекі - звоскі маральныя. Дый адкуль аўчаркам пра тое ведама.

Трывалі мужчыны, а потым узялі ды палавілі тых чалавекаў. Афіцэрскія сыны былі. У нас рэмбаза каля чыгункі стаяла, там вайскоўцы працавалі. Вось іхнія дзеці й забаўляліся, рыхтавалі сабак да службы на мяжы нашай Радзімы, нібыта. Ведама, сёньня гэтая рэмбаза, заўтра тая рэмбаза, гэтая мяжа, тая мяжа, і якая бацькам і дзецям справа да тутэйшых звычаяў. Афіцэры яшчэ на мужчын крычалі, што няма чаго на пагосьце прадукты пакідаць, што з-за гэтага вось і ў краіне няма чаго есьці, і яшчэ і яшчэ, ледзь ня біцца кідаліся. Мужчыны сыйшлі.

Толькі ўночы нехта на рэмбазе аўчарак паэасякаў. Сабакі нават ня гаўкалі, бо кожнаму па матку воўны ў лой вывадзганай кінулі. Нітак у мястэчку, дзякуй Богу, шмат - швэйная фабрыка ў тры зьмены мадоціць. Воўна ў сабачых зубах і захрасла, пашчу не сашчапіць, не рашчапіць. Дзе ж ты пабрэшаш, пагаўкаеш? Сабак засеклі. Шкада жывёлаў, але не сячы ж людзей, а вучыць неяк трэба.

3 - ПАЭТЫ

Сьмерць і пагосты, ячшэ кажуць - клады, вабяць ня толькі мяне аднаго, натуральна.

Вось у "Доме пісьменьніка" сядзяць за чаркаю два заўсёдныя паэты і размаўляюць. На круглым стале колба з каньяком (100 грамаў - 4 р. 10 кап.). Пасмы цыгарэтнага дыму віюцца пад шараабрысным белым з чырвонаю паскай сьвяцільнікам.

- Добра, што ёсьць сьмерць. Ты нават і не ўяўляеш, як важна, што мы ўсе роўныя перад ёю. Раней дык я ставіўся да сьмерці абыякава, нават пабойваўся. Што казаць? Жах ёсьць жах. А вось аднаго разу... - старэйшы з заўсёдных паэтаў кульнуў чарку і працягваў. - Я тады ў тэхнікуме займаўся, на вакацыі да бацькоў прыехаў, сьвята - якое ні ёсьць, а ў хаце пляшкі няма. Бацька мяне да суседа выправіў па самагонку. Сусед сабе гнаў, думалі - паэычыць. У вокнах сьвятло. Зайшоў я ў сенцы, пастукаў - цішыня. Яшчэ грукнуў - ціха. Пэўна, ў хлеў, ці так - на двор выйшаў, падумалася. Нават і ў галаве не мільганула, што нешта здарыцца магло. Адчыніў я дзьверы, зрабіў колькі крокаў і ўкамянеў. Сусед на ложку паверх посьцілкі ляжыць. І адразу відаць, што ня сьпіць, а мёртвы. Твар іншы, твар вольнага чалавека, усе пакуты адыйшлі, прасьветленасьць неэямная. Я каля печы і прастаяў, мажа з гадзіну. Усё ад сьветлага твару вачэй ня мог адвесьці, нібыта ад яго райскае зьзяньне сыходзіла. Спарыўся я ў кажуху, каля печы стоячы, пакуль мой бацька прыйшоў. Ну, тут шум ушчаўся і ўсё такое рознае. Суседава жонка прыляцела, укленчыла каля ложку: "А мой ты гаспадар!" А твар я запомніў на ўсё жыцьцё і сьвятло, якім ён быў асьветлены. Неэямное, празрыста-сьцюдзёнае сьвятло... І адкуль яно ў напаленай да задухі хаце? Яно часам на гіпсавых пасьмяротных масках зьяўляецца. Вось я аднаго разу бачыў яго на масцы Жэні Янішчыц. Адкрыў скрыню, разгарнуў газэту, а на масцы - сьвятло. Раней дык я ня ведаў, нашто зь нябожчыка маску рабіць, а цяпер ведаю, - гэта старэйшы з заўсёдных паэтаў распавядаў.

- А мне дык часта нябожчыкі ў сны прыходзяць. Я нават тыя сны запісваць пачаў. І ўсе яны шэрага колеру, быццам з плястыліну лепленыя. Вось брат мой стрыечны - Лявон... Колькі мы зь ім перапілі гарэлкі?! Мора! Ён на машыне разьбіўся. А ня так даўно ў сон прыходзіў.

Сьплю, бачу: іду сьценкаю, што за нашым гародчыкам, там ужо калгаснае поле пачынаецца, гэтым годам кукуруза расла. Вось Лявон з той кукурузы і выходзіць на мяне. Твар шэры, вочы невідушчыя, павекі паўзакрытыя - зрэнак зусім не відаць. Ідзе і кліча: "Хадзі да мяне, пляшку маю. Разам да дзевак пойдзем". "Якія дзеўкі? - думаю. - Мы ж цябе пахавалі, год, як на клады занесьлі. Дый да дзевак я з жанатымі ніколі не хадзіў. Ня маю такой звычкі". А ён бліжэй, бліжэй... І бачу, што ня йдзе Лявон, а плыве па-над самай сьценкаю, нават пылу не ўздымае. Я ў кукурузу, бягу, цяжка, ламлю стамбуры, як той дзік. Выбег - хата пасярод поля стаіць, нават і ня хата, а халабуда дашча-

ная. На ганку Алесь Разанаў сядзіць, без кашулі, у адных сподніх нагавіцах. Матузкі завязвае. Я да яго, і толькі пасьпеў "дзеньдобры" даць, як прачнуўся.

Коўдра скамечаная на падлозе. Устаў я і на клады пабег, нават ня мыўся, ня сьнедаў. Знайшоў Лявонаў капец, прыбраў. Вось, гэта ён да мяне прыходзіў прасіць, каб я капец прыбраў, бо Лявонава жонка ўжо зь іншым жыве, ліха яе ня возьме. А паэтаў я часта ў снох бачу: і Разанава, і Галубовіча, і Вас, дарэчы, бачыў, - гэта маладзейшы з заўсёдных паэтаў рспавядаў.

Мне цікава слухаць, як паэты распавядаюць пра сьмерць, але ёсьць адзін аспэкт, калі мне робіцца млосна, гэта як пачынаюцца развагі пра ўласнае самагубства. У мяне ажно сярэдзіна халадзее, бо не па-мужчынску пра такое языком мяньціць. І згадваецца такі выпадак у інтэрнацкім калідоры, доўгім, на паўсотню дзьвярэй. Каля вакна паліў у фортку мой знаёмы паэт-авангардыст. Ён вучыўся на апошнім курсе ўнівэрсытэту, і ў яго нарадзілася дзіця. Камэндантка пашкадавала й ня выселіла сям'ю зь дзіцем, пераняла ў кладоўку. Вось і жыў паэт у цеснай, як шафа, кладоўцы з жонкай-першакурсьніцай і дачкой.

А тады ён пачаставаў мяне цыгарэтай, і мы дымілі ў фортку. Тут да нас і падбегла дзябёлая дзявуля з рудою касой па самыя клубы. Яна задыхана папрасіла цыгарэтку й пачала прагна глытаць найтаньнейшы дым. "Задушуся! Вось пайду й задушуся!" - бубённым голасам сказала дзявуля і закашляла, папярхнулася дымам. "Душыся! Ідзі й душыся! Ці мне вяроўку з мылам табе прынесьці? Зараз пайду, пялюшкі паздымаю і прынясу. Толькі як ты задушысься, я вяроўку і мыла назад забяру, бо ня будзе чым бялізну мыць і на чым сушыць ня будзе. Дзіця яшчэ неразумнае, пад сябе робіць. Ці можа, крышку пачакаеш, пакуль малая падрасьце, дык я тады вяроўку назусім аддам". Дзявуля крутанула клубамі і ўцякла. "Нашто так?" "Ай, абрыдлі. Задушуся, атруцíся... Труцься! Не-е-е. Вось у тым і справа. Хто надумаў рабіць, той казаць ня будзе".

Вось, калі паэты пачынаюць казаць пра самагубства, мне і згадваецца дзявуля з бубённым голасам.

Але ў Гіёма Апалінэра ёсьць маналог самазабойцы: "Тры лілеі, лілеі тры на магіле маёй без крыжа..."

А я мяркую, самагубства мае апраўданьне, як дзеецца закаханым. Ходзіць такая легенда, што на менскіх Кальварыйскіх могілках маладыя каханкі разам разьвіталіся з жыцьцём. Легенда крыху пазьней, бо трэба пра паэтаў скончыць.

Колькі мне казалі: "Не распавядай ты пра паэтаў, пішы пра людзей простых". Але з усіх станоўчых вызначэньняў беларуса я пагаджаюся толькі з адным: беларус - паэт. Бо ўсе гэтыя: "цярплы, лагодны, дабразычлівы - вельмі ўжо лёгка пераварочваюцца ў баязьлівы, мляўы, абыякавы... Але ня ў гэтым бяда, а ў тым, што сёньня герой нашае нацыі - паэт і толькі паэт, пясьняр каханьня (слова "каханьне" без скажэньня сэнсу на іншыя мовы, дзякуй Богу, не перакладаецца). І хай сабе розныя сябры БНФ (Беларускі народны фронт) мне не паверацы. А я буду настойваць: беларус толькі тады беларус, калі ён паэт, і тутэйшы адно настолькі беларус, наколькі ён здатны разумець вершы.

"Тры лілеі, лілеі тры на магіле маёй без крыжа..."

А цяпер - інтымнае.

Яны моцна кахалі адно аднога. Здаецца, так пачыналася кальварыйская легенда. І каханьне было такое моцнае, што ні Ён, ні Яна не маглі й хвіліны адно без аднога пражыць. І сказаў Ён: "Давай адначасна памрэм, і тады мы вечна будзем разам". І яна ў знак згоды апусьціла вочы. І яны пайшлі на Кальварыйскія могілкі і памерлі ўваднучасьсе. А цяпер іх душы лётаюць разам і сьпяваюць. Тая легенда гучала на мікраёнскіх прапахлых галубамі гарышчах, калі яе пераказвала адна школьніца другой.

А на прыпад'езных лаўках, дзе гуртуюцца пэнсыянэркі, легенда мела іншы варыянт, іншую танальнасьць і фактуру.

Яна была наркаманка. У яе была поўная кайстра пушак з ампуламі. Яна перадавала тыя пушкі ад лекара наркаманам. А яе хлопец нават не здагадваўся пра ўсё гэта.

Аднаго разу раскрыў ён кайстру, хацеў насоўку ўзяць, а там поўна пушак з морфіем. Што гэта? Адкуль? Яна ў сьлёзы, ну і ўсё распавяла...

Ляжала ў бальніцы, пазнаёмілася зь лекарам. Той спакусіў яе і прывучыў да наркотыкаў. І вось цяпер яна змушана "адпрацоўваць" сваю долю - развозіць морфій па адрасах.

Хлопец - сьмелы, баявы - схапіў кайстру, панес у прыбіральню і ампулы з пушак ва ўнітаз павытрасаў.

На другі дзень вярталіся яны дадому позна ўвечары. Іх перапынілі хлопцы ў чорных куртках. "Пагаварыць трэба!" Хлопец той наркаманкі і слова не пасьпеў сказаць, як яму па галаве жалезам трупнулі. Толькі іскры ўваччу. Плямы зіхоткія паплылі-паплылі. Дзеўцы нож паказалі. "Маўчы, лярва! Ключы давай! Морфій давядзецца вярнуць". Прыцягнулі чарнакуртаўцы дзяўчыну і хлопца на кватэру. Хлопец ледзь ачомаўся, а яго ўжо да крэсла вяроўкай прывязалі. "Дзе морфій?" "Ва ўнітазе!" Перавярнулі ўсё чыста - ампулаў няма. "Дзе морфій?" А хлопец плюнуў аднаму ды ў твар. Я ж вам кажу - сьмелы, баявы. "Раз так - глядзі!" Схапілі яны дзеўку, пазрывалі зь яе адзежу. Пачалі выраблять, хто што хацеў. І так, і гэтак, і той, і гэты. І ўсё перад хлопцам зьвязаным. А каб не крычаў і не пляваў - кляп. Пазьдзекваліся, колькі змаглі. Папарывалі ёй там, дзе нават сказаць няможна. У кроў усё перапэцкалі. Кінулі яе непрытомную на падлозе і пайшлі. А на разьвітаньне: "Калі морфій не аддасьцё, вам канец!"

Апрытомнела дзеўка, разьвязала хлопца і кажа: "Жыць не хачу!" Узялі яны тую вяроўку, што хлопец быў скручаны, разрэзалі на два канцы, пайшлі на Кальварыю дый задушыліся. Раніцай іх вартаўнікі знайшлі. А душы дзеўкі з хлопцам па начах на Кальварыю вяртаюцца і сьпяваюць, сумна-сумна так. Сама чула.

Ёсьць яшчэ адзін варыянт легенды. Яго мне распавёў вартаўнік.

Я сядзеў пад клёнам і маляваў капліцу, яна мне здаўна падабалася - нэаготыка, чырвоная цэгла, сьпічастыя аканіцы, шляхетны беларускі рамантызм часоў Францішка Багушэвіча. Крэмзаў я пёркам па паперы... Падыходзіць акуратны дзед. Сеў на самы край лаўкі, запаліў. Што мяне зьдзівіла ў той сітуацыі, дык гэта спакой, зь якім дзед сябе паводзіў. Ні табе мітусьлівасьці, ні зазіраньня ў вочы. Запаліў ён і пачаў...

Вы вельмі слушна робіце, што капліцу замалёўваеце, а то год-другі й пабураць. Можа, я дык па-шчырасьці спадзяюся, і не зьнясуць, гэта калі католікі дамогуцца, каб тут касьцёл адчы-

ніlі. Туды-сюды. Кажуць, што Брэжнеў дазвол даў на адкрыцьцё Чырвонага касьцёлу ў Менску, што каля Дома ўраду. Але там ніяк. Мясцовы ўрад гарой стаіць, каб не адчыняць. Каб каля іх ды касьцёл працаваў?! Ого-го! Яшчэ каб царква, дык яны б думалі, бо праваслаўныя заўсёды з урадамі ў адну дудку дзьмуць. Сам чуў, як у КМСе (Кафэдральны Менскі сабор) яны Брэжнева ўхвалялі. Я ж, здаецца, і праваслаўны хрышчаны, а ў такіх справах на баку каталікаў. А што ў тым благога, каб жыдоў-кінашнікаў з Чырвонага касьцёлу прагнаць? Толькі лепш будзе. Я дык ня надта веры даю, што генсек дазволіў, але хто іх там на гары ведае? Калі і праўда сам папа рымскі Ян Павал ІІ прашэньне даслаў, дык можна й падпісваць. Туды-сюды. Я сам пяцёрку на касьцёл паклаў. Вы не паверыце, а я даў.

Тут палякі старыя прыехалі, хадзілі па Кальварыі, глядзелі, можа паўдня капец шукалі і, ведаеце, знайшлі. Ву-унь тамака, за жоўтай капліцаю, я ў ёй свой рыштунак трымаю, крыжык мармуровы стаіць, вось іхні бацька пад ім і пахаваны. Прыбралі, белыя гладыёлусы ў слоік паставілі - і да мяне. Так і так. І ўсё па-польску, з выбачэньнямі, паны. Яны ўсе цяпер, хто ў Польшчу зьехаў, - паны.

Клёны ў нас тут, уга, увосень лістоты па-калена. А я люблю - жоўтыя, чырвоныя, прыгожа. Туды-сюды. Пані з рыдыкюля дастала пяцьдзесят рублёў і мне ў руку. А самі да брамы. Старыя яны, гадоў па семдзесят, сівыя, як галубы. Не прыедуць больш, але бач ты іх, шануюць бацьку. З гэтае пяцьдзесяткі я пяцёрку на касьцёл паклаў. Астатняе? Ну, туды-сюды.

А капец даглядаю, усё роўна ж я тут за вартаўніка, ну і сьмецьце грабу, дык раз-другі і каля старога каталіка венікам пацягну, хай яму зямля пухам.

А вунь побач зь ім цэмэнтовы помнічак, на ім дошка мэталёвая, а на ёй рэльеф ліліі і надпіс: "Тут спачываюць Віта з Раманам". І ўсё, ні табе калі нарадзіліся, ні калі адыйшлі. Помнічак ніхто не глядзіць. А і Раманавы бацькі і Віцiны тут недалёка жывуць, за вінзаводам адразу. Я часам каго зь іх сустракаю, калі ў краму іду. Салідныя з выгляду людзі, а вось не глядзяць за магілай.

Віта гэтая з Раманам у адной клясе вучылася, ну вось і вырашылі пагуляць у рэвалюцыю. Туды-сюды. Панадрукоўвалі ўлётак на машынцы. А ўночы паналеплівалі на слупах каля прыпынкаў. Забаўка - заклікі, што так жыць, як мы жывем, нельга, і таму трэба змагацца за лепшую будучыню. Ну і пра ўрад наш там было і пра камуністаў, тады яшчэ камуністаў толькі на "рускім" - праваслаўным баку хавалі. Адно слова - дзяцінства. Туды-сюды. Але іх знайшлі, па машынцы, прападзі яна пропадам. І замест атэстатаў выдалі ў школе па "воўчым білеце". Ні ў інстытут, ні на добрую працу. Да мяне вось прыйсьці не здагадаліся, я б іх тут прыстроіў вартаўнікамі, ці пагаварыў бы з хлопцамі, каб на Чыжоўскія ці на Паўночныя... На могілках мейсцы ёсьць. Цяпер дык улёткі і заклікі на кожным плоце, ліха іх ня возьме, а тады - "воўчы білет".

Ну, а дзеці гэтыя паехалі ў Вільню, зьнялі нумар у гатэлі і папарэзалі сабе вены. Прывезьлі іх зь Вільні ў Менск і вось тут паклалі. Першы год дык маткі прыходзілі пасядзець, паплакаць. І помнік і дошку ў разьбяроў замовілі, яшчэ прасілі, каб на дошцы віленскія вежы былі. Але наш галоўны разьбяр угаварыў лілею зрабіць. Казаў, калі самагубства, дык абавязкова лілея павінна быць. А чаму? Не тлумачыў.

А цяпер ніхто не наведвае Рамана і Віту. Сюды-туды.

А малюеце вы няблага, толькі лепш было б сфатаграфаваць, а то зьнясуць і дакуманта не застанецца. Малюнак - не дакумант, а картка - дакумант. Праўду кажу. Туды-сюды. А можа вы мне дасьцё рубель? Надта ўжо парыць. Мусіць, дождж будзе.

Даў я вартаўніку рубель, за легенду.

- Вы прыходзьце сюды, малюйце. У нас тут добра адпачываць, ціха, прахалодна. Быццам і ня ў горадзе. А лепш за ўсё ўвосень, калі падае лісьце жоўтае, чырвонае. Праўда, па-калена гэтага золата тут. Прыходзьце.

5 - КАСЬЦЕЛЫ

Могілкі Кальварыйскія ня зьнесьлі. Той участак, дзе капцоў не было, пусьцілі пад платную аўтастаянку з вартаўнікамі ў цагляным буданчыку дый сабакамі на тэрыторыі. Касьцёл адраманлавалі і адчынілі. І цяпер там мой дзядзька Анатоль, той самы Толік, якому шафёр з-за мяне высьпятка даў, на электраарґане грае. Зрэдку наведваю яго, падымаюся пакручастымі прыступкамі на хоры, стаю, слухаю і гляджу як ягоны доўгі нос дзяўбе паветра над клявіятураю. І там, на хорах да мяне ўвесь час вяртаецца думка, што беларусы дагэтуль ня маюць сваёй веры і сваіх могілак. І думка гэтая невыпадкова прыходзіць менавіта на хорах.

Дзядзька Анатоль цяпер адданы каталік. А ў Бога ён паверыў пасьля драматычнага здарэньня на заводзе тэлевізарных футаралаў. Да здарэньня той завод быў знакаміты толькі тым, што на ім у свой час працаваў Освальд, якога прысудзілі ў ЗША да электрычнага крэсла за забойства прэзідэнта Джона Кэнэдзі. Вось на той завод і ўладкаваўся пасьля школы Анатоль простым рабочым, а ўвечары граў на танцах. У Рубяжэвічах раптоўна памёр арганіст, і ксёндз угаварыў Анатоля праз маці граць у касьцёле. Зь Менску ў Рубяжэвічы дзядзька езьдзіў на матацыкле. І вось, здаецца, Вялікдзень быў, а на заводзе, як раней зна́рок рабілі - працоўная сыбота. Анатоль і папрасіў хлопца, каб падмяніў, бо няма каму на службе сыграць. А калі вярнуўся, дык і даведаўся, што цэх выбухнуў, і хлопец-падменшчык загінуў.

Сьледзтва высьветліла, што выбух адбыўся з-за няспраўнасьці вентыляцыі. У сутарэньнях загарэўся пыл у вентыляцыйных трубах, агонь перакінуўся да бочак з лакам, якім пакрывалі футаралы. Бочкі выбухнулі, і ўсе тры паверхі разам са станкамі і працоўнымі абрынуліся ў сутарэньні, у полымя, у друз, у сьмерць. Менчукі казалі, што загінула больш за трыста чалавек. Хавалі іх за дзяржаўныя грошы на вясковых могілках пад Менскам, на кожным пагосьце ня больш як дзесяць нябожчыкаў, каб немагчыма было палічыць колькасьць ахвяраў. Ад каго тыя лічбы хавалі? Зрэшты, і зараз так робяць пасьля выбухаў на вытворчасьці.

Анатоль пасьля таго здарэньня доўга быў як не ў сабе. Можна зразумець, адное сьледства колькі нэрваў каштавала. Чаму ня быў? Чаму падмяніўся? Чаму з гэтым хлопцам, а ня зь іншым? Ці даваў хлопцу грошы? Колькі атрымаў за Вялікдзень? ...? ...? Намучыўся Анатоль і на ўсе пытаньні знайшоў адзін адказ. Бог выратаваў! І трэба служыць Богу верна і аддана! І Анатоль служыць, грае, моліцца. Цяпер у яго машына і мейсца ў менскім касьцёле. І ён мяне нават вучыў, як мастак павінен маляваць абразы. А ў прыклад ставіў аднаго самадзейнага мазілу, якога я добра ведаў як аўтара халтурнай афармілаўкі ў калгасах і касьцёлах. Але спрачацца з Анатолем я ня стаў, дый пляўузгаць на

калегу тады яшчэ ня меў звычкі. Анатоль верыць, што той маэіла тыдзень моліцца, а толькі потым пачынае пісаць абраз. Хай верыць.

А вось тое, што Анатоль мову нашу ня любіць, быдлячай заве й нялюдзкай, гэта мяне абражае. Э-за гэтага я і ў касьцёл ня так часта наведваюся. З-за такіх вось меркаваньняў і ня маем мы свае царквы і сваіх могілак. Няўжо й надалей беларус будзе думаць, што Бог пачуе яго толькі па-польску ці па-расейску?.. І надпісы на помніках і крыжах у нас ці па-заходняму ці па-ўсходняму. А па-тутэйшаму толькі ў паэтаў. Яшчэ адзін доказ, што беларус - паэт. Пэўна, таму мне і хацелася ў свой час, каб мяне ня клалі на пагосьце, а спалілі ў крэматорыі і попел рассыпалі ўздоўж дарогі, каля Койданава. Я нават напісаў пра гэта, але разважлівы рэдактар выкрасьліў, сказаў, што зарана пра сваю сьмерць думаць. А хто ведае, што нас чакае ўвечары?..

Цяпер, як з тымі ўлёткамі, э друкам і рэдагаваньнем вальней. Толькі я ўжо не настойваю на крэматорыі. Хай зробіцца, як прасьцей. Толькі лепш усё ж спаліць, і каб музыкі не было.

А то вось хавалі нашу блізкую сваячніцу, прыйшлі школьнікі з трубамі і барабанам - і такое пачалі выдзімаць... Засяродзіцца пад такія зыкі няможна. Які смутак, якая журба?! Злосьць бярэ. Халадэча, школьнікавы насы пасінелі, самі яны калоцяцца. Ім гарэлкі налілі, каб сагрэліся. Яшчэ горш. Абы што, а не Шапэн. Таму - каб ніякай музыкі. Хай будзе ціха. Можа, яшчэ чуць буду. Кажуць жа, што чалавек пасьля сьмерці не адразу слых страчвае. Вось і паўслухоўваюся. Можа, які паэт па-тутэйшаму слова скажа, а гэта мне лепш за ўсялякую струнную і духавую. Дый няма ў сьвеце беларускага пахавальнага марша.

* * *

Бываюць жа людзі, якім сумна, а значыць,і спакойна жывецца, і яны нават пакутуюць праз гэта, робяць неверагодныя намаганьні, каб нешта здарылася, адбылося, зьмянілася. Яны выпраўляюцца ў вандроўкі, караскаюцца па гарах, падаюць, хварэюць, а ўсё адно сумна. У мяне наадварот - заўсёды нешта здараецца. І палову сваёй энэргіі даводзіцца выдаткоўваць, каб выблытацца эь непрыемных акалічнасьцяў ці зноўку не патрапіць у сумлівыя сітуацыі.

"Цікава ты жывеш", - казаў інстытуцкі выкладчык, калі мы паехалі на практыку ў правінцыйны гарадок, і ў гатэлі ўсіх нашых хлопцаў разам з выкладчыкам абрабавалі. Усіх, акрамя мяне. І ўсе падумалі, што я злодзей. Цікава.

"Цікава табе жывецца, - казала жанчына. - А я дык толькі і магу, што здраджваць мужу з табою". Цікава, праўда.

"Цікава табе жывецца, - сказаў адзін мой новы знаёмы і дадаў. - Напэўна, цябе мала білі". А вось гэта няпраўда, нават калі і цікава. Білі мяне якраз многа, і тады, калі было за што, і проста так - твар не спадабаўся, глянуў ня так.

"Што ты на мяне з-пад ілба ваўком глядзіш?" - спытаў аднаго разу той самы абрабаваны выкладчык. А ў мяне такі погляд. Зьнянацку гляну ў люстра - самому ніякавата робіцца.

Дый мусіць трэба ўсё ж расказаць, як мяне пабілі на Кальварыі.

А білі мяне, бо не люблю людзей, якія свае малыя й вялікія патрэбы спраўляюць у касьцёле, хай сабе й былым.

Прыйшоў я на могілкі з намерам намаляваць акварэльлю матыў. На сёньняшні розум ён-занадта сантыментальны і прымітыўны - [illegible]

колкія, ледзь ня чорныя хвоі на нябесным тле, а пад імі блакітныя крыжы адзін другога перакрываюць. Прыладзіўся, акварэль з цюбікаў на палітру выціснуў, чую, нехта па касьцёле тупае і сьвішча: "Фью-фью-фьюуу". Я ціхенька да дзьвярэй, бачу ў шчыліну – стаіць гад і ў алтары на сьцяну мочыцца ды яшчэ сьвішча. З выгляду такі, як і я, кляса восьмая-дзевятая. Узяў я зь зямлі камень, зараз сьвісну, і ў вакно. Гадоў трыццаць там ужо шыбаў не было. Змоўк, стаіўся сьвістун. А я каля дзьвярэй пільную – выйдзе, нідзе дзенецца.

І выйшаў, толькі не адзін, а ўтрок выскачылі, галовы паўгіналі – і ходу. Прабеглі колькі і спыніліся, дайшло да іх, што гэта я камень кінуў. Тут трэба было ўцякаць, але чамусьці пашкадаваў я выціснутае на палітру акварэлі. Падумаў – абыйдзецца. Не абыйшлося.

Разварочваюцца – і на мяне ідуць, і ўжо не баязьліўцы, а героі. Агонь уваччу. Падыйшлі, пад ногі паплявалі, і той, што ў касьцёле нарабіў, ударыў мяне ў твар, моцна, зь левага боку, правай. У мяне скутасьць і страх як рукой зьняло. Так бывае – стаіш на беразе сьцюдзёнае рэчкі, а як дасі нырца, дык і пагроб, паплыў.

Ударыў я ў адказ, і трапна выйшла, у ніжнюю пашчэнку. Сьвістун адкінуўся на агароджу. Я да другога... Але адзін супраць трох толькі ў кіно можа нешта зрабіць. Спачатку яшчэ пасьпяваў галаву рукамі прыкрываць. Потым паваліўся на траву, пад агароджу.

Яны б'юць. Я на зямлі. Ня будуць жа вечна біць, скончаць. Яны і скончылі. Толькі як, ня памятаю.

А помню, як устаў, як доўга трымаўся за прэнты агароджы, як зьбіраў параскіданыя патаптаныя цюбікі акварэлі і пэндзлі зь пераламанымі тронкамі.

Помню, як прыцёгся дадому і зачыніўся ў лазенцы і абяцаў люстэрку, што больш ніколі не палезу біцца, хай хоць усе касьцёлы ў сьвеце мачою пааблiваюць.

Гэта пазьней я зразумеў, што нельга ў Бога прасіць пятака на метро, а тады мне было страшэнна крыўдна за ўвесь сьвет.

* * *

А цяпер у Кальварыйскім касьцёле шляхетная чысьціня і музыка, праменнасьць у алтары і абразы са скульптурамі. І мае, жонка з дачкою, ходзяць у нядзелю на службу, часам яны прыносяць папяровыя абразкі, маленькія, удвая-утрая меншыя за паштоўку, і ставяць іх за шкло на кніжныя паліцы. Я ня супраць, хай сабе ходзяць.

А куды, зрэшты, у Фрунзенскім раёне пойдзеш? У кіно? Дык гэта ж раз-другі на месяц. У рэстарацыю, дзе замест тавараў – пысы? Няма слоў. Вось і атрымліваецца – ці да каталікаў, ці да баптыстаў.

Але баптысты мне ня вельмі да душы. Па шчырасьці, я іх ня ведаю, каб так ужо супраць ставіцца, я ж не Бога-байца 30-х гадоў, але на адным баптысцкім пахаваньні быў. Якраз насупраць майго вакна дом стаіць. Каля таго дома і бачыў я баптыстаў. Вынесьлі яны труну, паставілі на зэдлікі, самі вышнураваліся паўколам і засьпявалі. Выдатна ў іх атрымлівалася, без усялякае афэктацыі, стрымана. І высокія ў жанчын і нізкія мужчынскія ноты гучалі суладна. Потым пачалося чытаньне Біблii. Я стаяў сярод дваравых разявакаў. Пачыталі і пачалі свае казаць. Адзін брат па Хрысту даваў слова другому брату. І па[illegible]

ператварылася ў агітацыйны мітынг. Я гэтых мітынгаў наеўся, як жаба гразі. Паўсюль адно й тое: потым абабязкова будзе добра, а цяпер слухайцеся нас. Разявакі паціху разыходзіліся, пайшоў і я.

Напярэймы - кабета з тазам чыстае бялізны. "Што там за мітынг?" "Баптыстка памерла". "Пайду гляну, а то думала - зноў дэпутаты". Вось вам і баптысты, так што мне лепш у касьцёл.

Я й хаджу, ня часта - разы тры-чатыры на год, ну і на Вялікдзень і на Вербніцу абавязкова. І на могілках пры касьцёле добра, паходзіш, супакоісься, штодзённая мітусьня сплыве, і згадаецца нешта зь дзяцінства.

Апошняга разу згадваўся дзед Бронік. Успомнілася, як хадзілі зь ім касіць канюшыну для трусоў, як ён нес поўныя рэзьгіны травы, а мне даў касу. Цяжкая была тая каса. А вярнуўшыся селі вячэраць, і дзед еў лыжкаю кіслае малако.

А яшчэ дзед Бронік ня мог забіць труса. І баба клікала суседку, і тая, шырока расставіўшы босыя ногі, біла труса дзеравянай качалкай. Я ўсё зьдзіўляўся, што дзед сам гэтага ня можа. "А як жа ж Вы ваявалі?" - пытаўся. "А так, дзе ў кустах пасяджу, дзе ўгару стрэлю. Ха-ха-ха. І ты так вајюй. А лепш зусім не ваюй". Тады мяне гэты сялянскі пацыфізм дзівіў, цяпер не. Тады была цяжкая каса і доўгія дні. Цяпер дні мільгаюць, незаўважна мінула пятнаццаць гадоў, як памёр дзед Бронік, які ня ўмеў ваяваць. А ўсё ж прайшоў тры вайны - Польскую, Фінскую ды Нямецкую. Яго пахавалі на "польскім" баку Новых могілак у Койданаве.

## 6 - ПІНЖАКІ

На тых могілках я бачыў пахаваньне цыганскага барона. Цыганы прыйшлі ў Койданава з чыгуначнай станцыі. Яны цэлым табарам ехалі ў Берасьце, і ў вагоне раптоўна сканаў барон. Яны сыйшлі зь цягніка й рушылі празь мястэчка на пагост. Мы, дзеці, пабеглі за стракатым натоўпам. Карцела пацікавацьці - як тады казалі - пазырыць. Барона на могілках распранулі, і ён ляжаў стары, голы, жоўты, нібы касьцяны, узьняўшы кудлатую бараду да апошняга свайго восеньскага сонца. Абмывалі барона халоднай вадой з калонкі.

Пампавальная калонка рыпела ў самым цэнтры могілак, яна нібыта падзяляла і аб'ядноўвала "рускі" і "польскі" бакі. На "рускім" тады хавалі ўсіх - і праваслаўных, і габрэяў (Бесхайм ужо закрылі), і камуністаў (як казалі - парціййцаў), і ўсялякіх чужынцаў - усіх, акрамя каталікаў. Цяпер дык камуністаў і на "польскім" баку не саромеюцца класьці. Калі бацька каталік, дык чаго сына праз дарогу хаваць?

Цыганы выкапалі яміну ў самым далёкім ад брамы кутку і не паралельна плоту, а пад сорак пяць градусаў. Жанчыны казалі, што ў іх [illegible]кі звычай, а я дык думаю, ім усё роўна. Як выкапалася, так выкапалася. Можа, і памыляюся. Яшчэ жанчыны казалі, што ня трэба было цыганоў пускаць на Новыя могілкі, хай бы свайго барона на Старых закапалі, а то нарабілі каля капцоў кірмашовага гвалту. Жанчын таксама можна зразумець. Цыганяты з-пад крыжоў пазабіралі слоікі, бутэлькі, чаркі. Але хай ім смачна п'ецца з тых чарак, калі такія спрытныя.

А што да баронавай магілы, дык засьцялілі яе кілімамі, пасадзілі на тыя кілімы барона ў белым з прась[illegible] мяху. І накідалі яму грошай, кожны цыган кінуў. Ну і пяском засыпалі.

А нашы падлеткі не маглі супакоіцца - столькі грошай у з[illegible]

мілі ляжыць. І пераказвалі адзін аднаму гісторыю... Пра касьцюм.

Нібыта быў у Койданаве нейкі горкі п'яніца, і хадзіў ён уначы, і раскопваў капцы, і ўскрываў труны, і здымаў зь нябожчыкаў адзежу ды абутак, і вазіў нарабаванае ў камісійныя крамы здаваць. А нейкі мужчына пазнаў у краме касьцюм, у якім бацьку пахаваў. Касьцюмаў аднолькавых шмат, але ў гэтым у нагрудную кішэню ён паклаў папяровы абразок, ну, калі бацьку хавалі. Вось па абразку і пазнаў пінжак. Даведаўся мужчына імя і прозьвішча п'яніцы. Высачыў, падпільнаваў і забіў, і ў яму кінуў, і засыпаў, каб ні знаку, ні сьледу.

Гэтая гісторыя-жахалка і спыніла месцачковых падлеткаў. Цыганоў баяліся. А раптам вернуцца, знойдуць ды зарэжуць? Але ніхто не вярнуўся. Капец зарос і зраўняўся зь зямлёю. Вось вам і баронаў лёс.

Хай Бог і людзі мне даруюць, але цыганоў я не разумею і не люблю. Ёсьць у мяне сябры, што захапляюцца цыганшчынаю: рамантыка, сьпевы рамансаў пад гітару (з-за гэтага й бардаў не паважаю), вандроўкі бязмэтныя, спэцыфічны кітч на кірмашы - коткі-скарбонкі з малінавымі "вырві-вока" банцікамі. На ваніты цягне, нібыта глядзіш на шакалад у брудных руках зь нястрыжанымі аж сінімі пазногцямі.

Бачыў я цыганскую вандроўку ў цягніку "Баку-Кіеў-Рыга". Восень шарая, лістапад, сьнег з дажджом. Я на станцыі Калінкавічы, мне ў Менск. Будзённы дзень, а квіткоў няма. Угаварыў касірку, наплёў абы чаго і пра дзяцей і пра бальніцы. Пра ўсё магу схлусіць, акрамя сьмерці. Далі мне квіток у агульны вагон. Я ў тамбур ледзь уціснуўся. Увесь цягнік бітма набіты цыганамі. Толькі ў тамбурах такія, як я, - славяне. Прайшоў я па вагонах, паўсюль тое самае: бруд, мітусьня, песьні, дзіцячы віск, сваркі.

Цыганкі паздымалі матрацы й засьцялілі імі падлогу. Сядзяць, ногі падкурчылі, ядуць, рукі аб матрацы выціраюць. Праваднiца - мажная ўкраінка ў форменай спадніцы (як толькі ня трэсьне на магутных клубах) - хапала матрацы за рог, выцягвала з-пад цыганак з цыганятамі, растрасаючы па падлозе памідоры і курыныя косткі. Цыганкі нават не абураліся, а чакалі, пакуль праваднiца сыйдзе, і зноўку сьцялілі матрацы на падлогу.

Тоўстыя старыя цыганы ў шаўковых незашпіленых кашулях ляжалі на верхніх паліцах і дымілі ў столь.

У прыбіральню ня ўбіцца, займаць чаргу няма сэнсу. Якая чарга, калі вакол адна чарнагаловая сям'я, што ў трэйці раз едзе з Баку ў Рыгу?

Праваднiца ў тамбуры мне скардзілася, казала, што даязджаюць гэтыя чэрці да Баку ці да Рыгі і купляюць ізноў усе квіткі на гэты самы цягнік, і едуць немаведама навошта, хоць ты плач ды з працы звальняйся, у прыбіральнях усё робіцца міма ўнітаза, матрацы й падушкі папсавалі, шклянкі крадуць, фіранкі папарывалі, на вузлы пазавязвалі... Што за народ такі? Як я людзей пасьля іх вазіць буду? Чавэ-э-элы! Вымаўляць брыдка! Цьфу...

На менскім пэроне я ўздыхнуў і ўспомніў, як у Рызе на чыгуначным вакзале касірка папярэджвала мяне, каб ня браў квіток на "Рыга-Кіеў-Баку", а браў на "Кірлю" - "Талін-Менск". "Хай пазьней, затое будзеце ехаць і даедзеце як чалавек"...

Трэба шанаваць звычаі іншых народаў, але як мне, беларусу, зразумець пературварэньне што могілак, што цягніка ў брудны балаган?

* * *

У Вільні інакш. Колькі я пахадзіў па віленскіх могілках, дзе знайшлі спачын выдатныя нашы суайчыньнікі?! Толькі і там не абыйшлося без вар'яцкіх учынкаў. А як інакш назваць тое, што апісаў мне стары віленец?

У саракавым годзе вайскоўцы палівалі помнікі польскіх афіцэраў і разам зь імі чорную пліту, пад якой пахавана сэрца Пілсуцкага, звычайным чалавечым гноем з тамтэйшых прыбіральняў. А ўсё для таго, каб панская Польшча ведала, які дух у яе абаронцаў.

Я не "польскі шпіён", як мой дзед, што за дзяржаўны кошт на два гады зьезьдзіў у Архангельскую вобласьць толькі за тое, што перанес празь мяжу наліўку на вясельле сваякоў. Я не пілсудчык, які бачыць Польшчу ад мора да мора. І дакумантаў у мяне няма, што ўноч з такога на такога па загадзе такога і такога над помнікамі перакулена столькі і столькі бочак гною. І ці могуць быць дакуманты? Ёсьць толькі ўспамін старога віленца, які выходзіў на вуліцу пад бел-чырвона-белым штандарам, бо быў супраць адыходу Вільні да Літвы.

* * *

А ў маладосьці была ў мяне задума: паезьдзіць па Беларусі ды адзняць на слайды пахаваньні. Што ні мясьціна, свае звычкі. Але ў маладосьці задумаў у кожнага шмат. Вось і ў майго выкладчыка, што казаў "цікава ты жывеш", была задума надрукаваць у тоўстым ілюстраваным часопісе падборку матар'ялаў "Беларускія крыжы". Ён не надрукаваў, а я не адзьняў. Задума мая не рэалізавалася, але пачаць я ўсё ж пачаў.

Зімою сеў на аўтобус да Івянца. Архітэктуру паглядзець хацеў, баракальны касьцёл, ну, і на могілках паздымаць. Хадзіў я, хадзіў, але дачакаўся.

Паперадзе - мужчына ў белай пелярыне паверх палітона зь вялікім жоўтым, толькі з-пад гэбля, крыжам. Калі крыж нясуць, ён заўсёды большым выдае. За крыжам чацьвёра труну нясуць, за імі двое - вечка, звычайна - чорнае. Ксёндз. А там ужо жанчыны, мужчыны, дзеці. Ніхто ў мястэчку ім дарогі не перабяжыць - няможна. Па глыбокім сьнезе прайшлі да жоўтых гурбаў пяску. Труну паставілі. Ксёндз пачаў казаць.

А я ўсё думаў - здымаць ці не? Без дазволу - няёмка, а дазволу прасіць таксама невядома як. Дый які зь мяне фатограф? На тым і вырашыў, хай хто іншы здыме пахаваньні, а я проста пастаю зьняўшы шапку.

Ксёндз скончыў. І тут жанчына пачала, укленчыўшы каля труны: "А наш татачка! А наш ты родненькі! Нашто ты пайшоў такою парою, па такім марозе? А мог бы ты вясны пачакаць, з унукамі ў садочку пагуляць. А ты зімою ў дарогу выбраўся. Ляжыш, наш родненькі, на холадзе ў адным пінжаку..."

Больш я слухаць ня змог, пачаў па сумётах выбірацца з могілак, а мяне дагнаў іншы голас: "Дзякуй табе, сырая зямля, што ты расхінесься і нас прымеш".

# Сяргей Дубавец

## 10 гадоў версіфікацыі

* * *

Калі сканчаюцца 17
Тваіх надзеяў і гадоў,
Слабеюць крылы у Пэгаса,
Ён пачынае спатыкацца
Ў выбоінах чужых сьлядоў.

Навокал толькі пыл, курога
І пустата, і лабадо...
І аднастайная дарога,
І конь вязе так нудна, доўга,
Што ты саскокваеш на дол

І сам узвальваеш на сьпіну
Свайго стамлёнага каня,
І цягнеш, цягнеш несупынна
Ўжо не каня, а груд каніны,
І ўсё бліжэй, бліжэй зямля.

### БЛЮЗ

Яна прасіла у мяне
песень,
а я круціў ёй нейкія
касэты..
Яна пытала пра мае
зімы,
а я расказваў
пра свае
леты.
І я выкрыкваў некаму
пагрозы,
калі пытала
пра мае
мары.
І я за вусы
прыцягнуў хмару,
калі спытала
пра мае
сьлёзы...

А потым доўга-доўгімі
начамі
пытаўся я ў яе –
яна
маўчала.

## ЗЬ НІЗКІ "РУСКІЯ ПЕСЬНІ"

### 1 - Вобразы

Адгучала музыка
За маім сталом,
Адзьвінелі чаркі
Ды лыжкі,
Над паперай ноч,
Сьпіць маё пяро
Між сьлядоў піроў
Сьцішана.
Разбрыліся ўсе
Па дамах-тамах,
Разьляцеліся
Вобразы,
Толькі нейкі птах,
Страшны чорны птах
Сеў-заседзеўся
Позна.
Крача: пачакай,
Крача: не сьпяшай,
Шчэ пасьпееш спаць
Класьціся,
Напісаў мяне -
То ж не упускай,
Не гані сваё
Шчасьце.

### 2 - Галава

Як пападалі галовы
На траву,
Я зьмяніў сваю на нову
Галаву.
Павяла да чужаземца
Галава,
Ды давай яго ў вусенцы
Цалаваць.
Ды давай ягонай мовай
Гаварыць,
А сваё старое слова
Мацярыць.
Пра мяне яна крычала,
Што - чужак,
Але тут узбунтавалася
Душа.
Я здыму яе, чужую,
Адарву,
Ды на дзіду пасаджу я
Галаву.
Лепей жыць без галавы, ды
Без сваёй,
Чым чужою муляць шыю
Галавой.

* * *

Калі вечар настаў і прабілася бляклая поўня,
Я між кніжак старых альбо, можа, між будучых кніг
Адшукаў гэты сшытак, сьпісаны радкоўямі
Небывалых трагедый, як мне падалося - маіх.

І чытаў аж да раньня, калі зацягнулася поўня
Шэрай хмарай бясконцага нуднага дня.
Хвалявалася сэрца, а розум стрымоўваў:
Пачакай, гэта ж вершы, а вершы - гульня.

Я згарнуў той сшыток і засунуў між кніжак,
Між старых альбо, можа, між будучых кніг,
Хай ляжыць, пакі ца́рыць бясчасьсе адліжнае,
Я знайду яго зноў, як ня стане адліг.

Я знайду і скручу зь яго сьветач паходні,
Што ня грэцьме, а будзе якраз ледзяніць
У цяпле атлусьцелыя сытыя содні,
Разблажэлыя ў працы бязрадаснай дні.

Ён гасіцьме дурноту нікчэмных парываў
І чужацкае песьні атрутны дэвіз,
Над радзімай маёй ён уздымецца й рыне,
Асьвятляючы цемрыва, рыне уніз.

* * *

Яна забралася ў мяне,
Абвіла ручкамі калені,
Заснула стомлена і ў сьне
Сказала: я твой геній.

І хмары зьніклі, зорны час
Адведаў мой пакоік,
І ўжо хацелася крычаць
Да болю.

Калі ж збудзілася яна
І выпрастала плечы,
Я ўбачыў - муза не адна,
А зь мечам,

На важкім шчыце зьзяе герб,
Кальчуга па ўсім целе,
Над галавою месяц-серп
І сьцяг бел-чырван-белы.

Я ўпаў, зваліўся я бязь сіл,
Бы сьсеклі пад камель.

Ці ж гэта б я яе насіў
Такую у сабе?

* * *

Уначы прыйдзі, пані,
І тады да сьвітаньня
Будзем марыць пра летнік
І аўтамабіль,
Ці шалёна паўстанем
І ўсе кніжкі папалім:
Макаёнак, Шамякін,
Броўка, Панчанка, Брыль!

Па расе прыйдзі, пані,
Халадком, ціхім раньнем,
Будзем песьні складаць -
Залатыя часы!..
Ці усё вакол зганім
Ды ўсе кніжкі папалім:
Межэлайціс, Алейнік
І Куліеў Кайсын!

Альбо ўдзень прыйдзі, пані,
Да самога зьмярканьня
Паміж ежай і чаем
Хай зжырае нас блуд.
А наеўшыся ўстанем
І ўсе кніжкі папалім:
Маркес, Абэ, Фейхтвангер
І Курт Ванэгут.

* * *

Дробным зернем высьпявае
На густым ад дыму небе
Беспраменная манета,
Фасфарычнае сьвятло -
Можа, сонца, можа, месяц,
Можа, кінутае ў лесе
Альбо знойдзенае ў стэпе
Непатрэбнае жытло.

Там ня б'юць і не лякаюць,
Там ня песьцяць, не ласкаюць,
Там бясконцая цякучка
І праблемы - драбяза,
Дык адкуль, адкуль такая
Дробным зернем высьпявае
На бясьпечным гладкім твары
Беспрычынная сьляза?

То пр[illegible]ходзяць дні і тыдні,
То бягуць гады-стагодзьдзі,
Ўсё мінаецца і толькі
Фасфарычнае сьвятло
Застаецца непарушным
І ня тае ў жмараў лёдзе,
Як балючы напамінак
[illegible]

*   *   *

Як забудзеце пра гора,
Як настане час адліг,
Не шукайце маіх твораў
На старонках вашых кніг,

А шукайце маіх твораў
На старонках вашых кніг,
Калі хвалі прышлай мовы
Вас накрыюць сьцюжным морам,
І сыйдуцца краты крыг.